НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 47 (788) 19 снежня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серадзе

## Беларускамоўныя стыкеры фанатаў



Новы трэнд у асяроддзі футбольных «хуліганаў». Старонка 9.

## Якая крама тэхнікі найтаннейшая?



«Карона-Тэхна», «Пяты элемент» і «Электрасіла» змагаюцца за кліентаў. Старонка 5.

# Плошча камень точыць

**За два гады пасля Плошчы** жаданне перамен у краіне толькі ўзрасло. **Старонка 3.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Навука**

## Амерыканка кіруе пратэзам сігналамі мозгу

53-гадовая Джэн Шэрман пакутуе ад дэгенератыўных зменаў мозгу і паралізавана ад пятаў да шыі.

Жанчына нядаўна атрымала магчымасць перасоўваць прадметы з дапамогай рабатызаванай рукі, якая кантралюецца непасрэдна яе мозгам.

«Новую руку» Джэн Шэрман атрымала праз удзел у эксперыменце Медыцынскага цэнтра Пітсбургскага ўніверсітэта. Яна стала пацыентам-валанцёрам, пабачыўшы Ціма Хэмса — яшчэ аднаго ўдзельніка эксперыменту. Цім страціў магчымасць рухацца ў выніку аўтамабільнай аварыі.

Каб даць Джэн магчымасць кіраваць рукой-робатам, супрацоўнікі Медыцынскага цэнтра Пітсбургскага ўніверсітэта імплантавалі ёй у кару галаўнога мозгу электроды, якія счытваюць рухальныя сігналы. Апрацаваныя спецыяльным камп'ютарным алгарытмам, гэтыя сігналы кантралююць механічную руку гэтак жа дакладна, як і жывую.

**Працяг на старонцы 7.**

**Здарэнні**

### На кальцавой збілі вядомага джыпера

Спыніўся, каб выцягнуць чужое аўто з кювету, і загінуў. **Старонка 10.**



**Гаспадарка**

### Найбуйнейшы гандлёвы цэнтр краіны

«Замак» адкрыўся на пр.Пераможцаў . **Старонка 6.**




**Гутарка**

### «Я не збіраюся рабіць палітычную кар'еру»

Лідар «трэцяга сектара» Улад Вялічка. **Старонка 4.**




**Літаратура**

### Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без

Выйшаў новы рамана Уладзіміра Някляева. **Старонкі 12—13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Снежань сцюжны з зімою дружны

Гэты тыдзень будзе **небяспечна сцюдзёным**.

Пад выхадныя тэмпературы апусцяцца да мінус 21—26 ва ўсёй краіне. Балазе, завірухі суцішацца. Маразы накрыюць таксама захад краіны: Брэст і Гродна, дзе доўга трымаліся мяккія тэмпературы.

Варта падрыхтаваць аўто, быць гатовымі да таго, што машыны могуць не заводзіцца, а грамадскі транспарт будзе перапоўнены. На дарогах магчымы галалёд. Дзецям варта добра патлумачыць правілы разумных паводзінаў на марозе.

Будуць і радасці: ад аўторка момантамі пачне праглядаць сонца. А вось на каталіцкае Божае Нараджэнне сіноптыкі чакаюць паўнавартай адлігі з плюсавымі тэмпературамі і ўсімі радасцямі грыпу, якія такія адлігі суправаджаюць.

**Сяргей Гезгала**

# Як пераджыць маразы

Маразы да мінус 25. Такое надвор'е нельга назваць прыязным. «НН» сабрала карысныя парады, **як пазбегнуць абмаражэння**.



### Апранайцеся згодна з надвор'ем

Першы крок — правільна апрануцца. Адзенне для моцных маразоў павінна быць шматслойным, каб затрымліваць цяпло і закрываць максімальна магчымую плошчу цела (і пры гэтым не замінаць руху). Жанчынам трэба забыцца на голыя спіны, а мужчынам рэкамендуецца кінуць незразумелыя прынцыпы і адзець кальсоны. Асаблівую ўвагу надайце абутку, які мусіць быць няцесным і добра грэць, ды цёплым пальчаткам. Адзенне павінна быць сухім, а абутак зімой лёгка намакае, таму сушыце свае боты ды чаравікі штовечар, вымаючы з іх вусцілкі. І памятайце: словы з прымаўкі «трымай галаву ў холадзе» не пра —25°С — абавязкова насіце шапку (пажадана, каб яна закрывала вушы).

### Ешце і піце перад выхадам

Не выходзьце з дому, не паеўшы цёплай ежы ды не выпіўшы кубак цёплай гарбаты ці кавы. Але не піце вельмі гарачую вадкасць адразу перад выхадам: яна можа прымусіць ужо цёпла апранутага чалавека спатнець, а ў вільготным швэдары вы змерзнеце яшчэ хутчэй. І памятайце: алкаголь — вораг на марозе. Ён пашырае сасуды і прыводзіць да больш хуткага пераахаладжэння арганізма, якога чалавека не заўважае.

### Мажцеся, але асцярожна

На адкрытыя ўчасткі скуры рэкамендуецца наносіць тлустыя крэмы, асабліва людзям, якія маюць сухую скуру ці пакутуюць ад скурных захворванняў. Тут будзьце ўважлівымі: крэм трэба наносіць не пазней, як за гадзіну да выхаду з дому. Лепш адмовіцца ад выкарыстання ўвільгатняючых сродкаў на воднай аснове—наносьце іх на пярэдне ачышчаную скуру, калі вы ўжо вярнуліся. Не забывайце пра гігіенічную памаду для губ, бо яны хутка высыхаюць і трэскаюцца на холадзе. Але нельга расціраць адмарожаныя ўчасткі ці ўціраць у іх спірт, тлушч ці алей.

### Не спяшайцеся і дыхайце праз нос

Дыхайце праз нос, бо гэты орган ачышчае і саграе паветра. Бегаць па марозе не варта: можна «перагрэцца» і спатнець ці стаміцца. Рухайцеся павольна, але пазбягайце доўгіх перыядаў бяздзейнасці—калі не рухацца, не выратуе любое цёплае адзенне.

### Правільна «чытайце» прагнозы

Ніхто не прымушае сядзець у маразы дома—свежае паветра заўсёды карысна чалавеку. Але ўлічваць трэба не толькі тэмпературу паветра, але і вільготнасць паветра, і хуткасць ветру. «Сухі» мароз пераносіцца лягчэй праз меншую цеплааддачу. Вецер таксама хутчэй астуджае цела. Ніхто не прымушае сядзець «у чатырох сценах», і ўсё ж падчас шквалістага ветру лепш бавіць час дома.

**Кірыла Хілько**

## Сцісла

**Лукашэнка паляцеў у Маскву**

У Расіі пройдзе чарговая сесія Рады калектыўнай бяспекі АДКБ, пасяджэнне Міждзяржаўнай рады Еўразійскай эканамічнай супольнасці і пасяджэнне Найвышэйшай Еўразійскай эканамічнай рады.

**Ператрус на заводзе газетнай паперы пад Шкловам**

У кабінетах кіраўніцтва РВУП «Завод газетнай паперы» ў Шклоўскім раёне 18 снежня прайшлі агляды і канфіскацыя дакументаў супрацоўнікамі міліцыі. Зрэшты, крымінальнай справы пакуль няма.

**Microsoft выпусціла беларускамоўную версію Windows**

Моўная надбудова для Windows 8 «важыць» 4 мегабайты і ўсталёўваецца менш чым за 10 хвілін.

**Вандалы разграмілі каталіцкую капліцу**

У ноч на 16 снежня невядомыя абрабавалі каталіцкую капліцу Маці Божай Будслаўскай у Мінску (р-н Каменная Горка). Скралі свечкі, мікрафоны, а таксама знішчылі, разбіўшы аб падлогу, гукаўзмацняльныя калонкі. У капліцы з алтара былі паскіданыя абрусы і распылены вогнетушыцель.

**ЗП**

# Новы міністр культуры штодня робіць двухкіламетровыя заплывы

**Барыс Святлоў** быў госцем перадачы «Контуры» на АНТ.

Гаварыў ён, як і вядучы Аляксандр Аверкаў, на беларускай мове.

Найперш Аверкаў пацікавіўся, ці Святлоў «лабіст культуры», ці «ўпраўленец». «Калі б я быў лабістам, то мяне б абіралі, за мяне галасавалі. Жанр маіх паводзін быў вызначаны тым, што я прызначаны прэзідэнтам, таму я, безумоўна, упраўленец», — кажа Барыс Святлоў.

Калі гаворка зайшла пра рэфармаванне Міністэрства, то Святлоў загаварыў пра Дэпартамент аб кінематографе, што ён найперш будзе рэфармаваны. «Магчыма, Дэпартамент — гэта залішняе, частка паўнамоцтваў будзе перададзена кінастудыі «Беларусьфільм».

Аверкаў папытаўся, ці павінна культура заставацца датацыйнай. «Безумоўна, павінна», — адразу адказаў міністр.

Сярод найбольш чаканых падзей у культуры Святлоў назваў адкрыццё пасля рэканструкцыі Купалаўскага тэатра, таксама ён запэўніў, што вялікая ўвага будзе надзяляцца «Славянскаму базару», «Дням пісьменнасці», «Дажынкам».

«24 гадзін у суткі мала», — сказаў новы міністр, калі ў яго запыталіся пра распарадак дня. Кожную раніцу Барыс Святлоў пачынае з 2-кіламетровага заплыву ў басейне.

**Зміцер Панкавец**

# Іх у нас 13: павіншуй палітвязня з Калядамі і Новым годам

Набліжаюцца каталіцкія і пратэстанцкія Каляды, затым — Новы год, затым — праваслаўныя Каляды. За кратамі на сённяшні момант утрымліваецца 13 палітвязняў. Варта павіншаваць іх са святамі або лістом, або паштоўкай, або даўшы тэлеграму, затэлефанаваўшы на нумар 166 з гарадскога тэлефона і прадыктаваўшы адрас.

Паштоўка каштуе каля 1 000 рублёў, марка па Беларусі — 800 рублёў. Кошт тэлеграмы яшчэ ніжэйшы.

Таксама пажадана ўказваць імя па бацьку адрасата, каб ліст ці паштоўка гарантавана дайшлі.

**Аліневіч Ігар Уладзіміравіч:**
211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

**Аўтуховіч Мікалай Мікалаевіч:**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма № 1.

**Бяляцкі Алесь Віктаравіч**
213800, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія № 2, атрад № 14.

**Васьковіч Яўген Сяргеевіч**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**Дашкевіч Зміцер Вячаслававіч**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма № 1.

**Дзядок Мікалай Аляксандравіч**
212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**Лобаў Эдуард Юр'евіч**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22.

**Малчанаў Аляксандр Валер'евіч**
222125, Мінская вобл., Барысаўскі р-н, в. Навасады, папраўчая калонія №14.

**Парфянкоў Васіль Пятровіч**
225413, Брэсцкая вобл., г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258, СІЗА № 6.

**Пракапенка Арцём Анатолевіч**
212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, папраўчая калонія № 15.

**Севярынец Павел Канстанцінавіч**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7.

**Статкевіч Мікалай Віктаравіч**
212011, Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**Францкевіч Аляксандр Уладзіміравіч**
25295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20, папраўчая калонія № 22, атрад 2.

## Рэкамендуем

### Пяцігадовыя мадэлі: зорная кар'ера ці дзіцячы гурток?

Глядзіце рэпартаж на nn.by.

### Новая радасць YouTube: Зоя і Валера

Брат і сястра з Брэсцкай вобласці перапяваюць расейскі шансон. Глядзіце на nn.by.

## Самае чытанае на nn.by за 12 — 18 снежня

1 Адкрыўся «Замак» — найбуйнейшы гандлёвы цэнтр краіны — фоты

2 У ЗША 20-гадовы, які ніколі не глядзеў людзям у вочы, расстраляў 26 чалавек

3 Камуніст з Чыты заснаваў баявы атрад для змагання з беларускай апазіцыяй

4 Чые імёны шукаюць у інтэрнэце найчасцей? Топ-25 беларускіх зорак

5 На МКАД насмерць збілі джыпера, які дапамагаў выцягваць з кювета чужую машыну

6 Фразы, за якія 25 гадоў таму можна было б трапіць у дурдом

7 —13, —15, —18, —25... Ад панядзелка маразы будуць штодня мацнець

8 Лукашэнка: Хто сыдзе, будзе працаваць на прымусовых работах. І цукерку даць

9 23-гадовую маці забітых у Салігорску дзяцей абвясцілі ў вышук + фота

10 Казіятка і Якубовіч: Вялікія начальнікі чытаюць не «СБ», а «Хартыю'97»

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перakazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

# Плошча камень точыць

**За два гады** пасля Плошчы жаданне перамен у краіне толькі ўзрасло.

19 снежня спаўняецца два гады з таго дня, калі 30 тысяч дэманстрантаў сабралася на Плошчы, каб патрабаваць свабодных выбараў. Масавыя арышты іператрусы вярнулі краіну ў стан замарозкі, але праз два гады пасля гэтага сацыёлагі фіксуюць яшчэ большае жаданне перамен.

Па-ранейшаму ў няволі застаюцца непасрэдныя ўдзельнікі тых падзей — Мікола Статкевіч і Павел Севярынец. Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў не дайшлі да Плошчы, але іх справу нельга разглядаць у адрыве ад тых падзей.

Прайшло два гады, а на многія ключавыя пытанні Плошчы па-ранейшаму няма адказаў. Напрыклад, чаму не знайшлі чалавека, які падносіў да Дома ўрада радлёўкі. Ён зафіксаваны на відэа і фота. Ці мела там месца спланаваная правакацыя? Міліцыя ж загадзя знаходзілася ў Доме ўрада, нібыта чакаючы падобнага развіцця падзей.

Паводле апошніх сацыялагічных даследаванняў НІСЭПД, рэйтынг кіраўніка дзяржавы складае 31,6%. На пытанне «Ці згодны вы, што моцны лідар можа даць дзяржаве больш, чым добрыя законы?» адказалі «не» 49,1%.



Мікола Статкевіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У той жа час, калі правакацыя мела месца, то яна магла прайсці па тым самым сцэнары, нават калі маніфестанты рушылі б да Адміністрацыі прэзідэнта.

Ці мелі лідары Плошчы нейкі канкрэтны план? Чаму людскі натоўп, які спачатку рынуўся да Адміністрацыі, раптоўна завярнуў у бок плошчы Незалежнасці? Хто кіраваў тым паходам, калі большасць кандыдатаў высвятляла адносіны з ДАІшнікамі?

Андрэй Саннікаў, які сёлета выйшаў з турмы, пакуль так і не расказаў падрабязнасці падрыхтоўкі і самой Плошчы. Маўляў, пакуль за кратамі застаюцца вязні — рабіць тое рана.

Чаму ўзнікала гаворка пра перамовы з Сідорскім? Можа, гэта і была тая дэзінфармацыя, на якую купіліся наіўныя сярод кандыдатаў? Або нейкія кантакты з другім чалавекам у дзяржаве сапраўды былі?

Правакацыі правакацыямі, але галоўнае, што Плошча-2010 паказала: людзі зноў і зноў выхо-дзяць на дэманстрацыі супраць дыктатуры. І менавіта гэтыя выступы становяцца вызначальнымі момантамі ў жыцці краіны. Іх разгон толькі ўзмацняе адчуванне, што да людзей не прыслухоўваюцца.

**Зміцер Панкавец**





Біццё шкла ў Доме ўрада распачалі нікому не вядомыя тыпы. Яны ж падносілі рыдлёўкі аднекуль збоку. Пасля да іх далучылася і частка гарачых галоваў з шэрагаў сапраўдных дэманстрантаў. Чалавека з рыдлёўкамі, зафіксаванага на гэтым фотаздымку і відэа, так і не знайшлі.

# Еўрачыноўнік у Мінску. Для чаго?



Дырэктар дэпартамента Еўрапейскай службы замежных дзеянняў **Гунар Віганд** у панядзелак наведаў Мінск.

Калі б не міні-паведамленне на сайце МЗС, то пра гэта маглі б увогуле нічога не даведацца.

«Бакі абмеркавалі комплекс пытанняў, якія тычацца бягучага стану адносін паміж Беларуссю і ЕС і шляхоў іх нармалізацыі», — так лаканічна гучыць прадмет гутаркі Віганда з міністрам замежных справаў Беларусі Уладзімірам Макеем.

З прадстаўнікамі апазіцыі Віганд гэтым разам не сустракаўся, як падчас мінулага прыезду ў Мінск у лютым. Тады менавіта дзякуючы сустрэчы з прадстаўнікамі незалежнага грамадства стала вядома, што ўлады паабяцалі Еўропе выпусціць некалькіх ключавых палітвязняў.

Чакаць давялося два месяцы. У сярэдзіне красавіка на волю выйшлі былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і ягоны паплечнік Зміцер Бандарэнка.

Сайт «Хартыя-97» назваў сустрэчу Макея і Віганда «таемнай змовай». «Звычайны базарны гандаль, у якім палітвязні зноў разменная манета і крыніца паступлення заходніх грошай, якія будуць выдаткаваныя на новыя штыхі для ўтрымання ўлады дыктатара», — напісала рэдактарка сайта Наталля Радзіна.

14 снежня ў Брусэлі на саміце Еўрасаюза быў лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. «Так, я ведаў, што рыхтуецца гэты візіт», — кажа палітык.

«Мэта тая самая, якая была дагэтуль, — аднавіць адносіны. Для гэтага патрэбныя кансультацыі. Вядома, пазіцыя Еўропы жорсткая, што найперш вызваленне палітвязняў, але гэта не значыць, што не патрэбна размаўляць».

Мілінкевіч шкадуе, што Уладзімір Макей знаходзіцца ў статусе неўязнога ў краіны Еўрасаюза. «Гэта робіць шмат шкоды Беларусі».

«У Еўропы існуе разуменне, што ізаляцыя нашай краіны шкодная. Магчымы эканамічны калапс быў нявыгадны ўсім», — адзначае лідара Руху «За Свабоду».

Пакуль невядома, ці паабяцалі ўлады Еўропе на гэты раз штонебудзь.

**ЗП**

Ліст у рэдакцыю

# Міністэрства абароны Беларусі ці Расіі?

Выпадкова зацікавіўся складам кіраўніцтва Мінабароны і Памежнага камітэта і быў шакаваны: з 11 кіраўнікоў — усяго 3 ураджэнцы Беларусі (наменнікі), прычым і ўсе гэтыя тры нядаўна прайшлі акадэмію Генштаба Узброеных Сіл Расіі.

Усе астатнія кіраўнікі, уключаючы начальнікаў ведамстваў, — родам з Расіі і Украіны, а падрыхтоўку праходзілі ў тым жа генштабе РФ. Гэтыя людзі адказваюць за абарону суверэнітэту і межаў нашай краіны і пры гэтым навучаны ваеннай дактрыне суседняй дзяржавы, якая, натуральна, будуецца на расійскіх геапалітычных прыярытэтах.

Вось кім рэальна дыктуецца палітыка і каму выгадна, каб нашы межы былі зачыненыя.

**Яўген Далевіч**

**Ад Рэдакцыі.** «НН» пісала ўжо пра тое, што на кіраўнічых пасадах у большасці сілавых ведамстваў (МУС, спецназ, да нядаўняга часу КДБ) сядзяць людзі, народжаныя не ў Беларусі. Беларусы з сівой даўніны славіліся сваёй смеласцю і вайсковай доблесцю. Невялікая нацыя, а перамагалі і пры Грунвальдзе, і татарам не паддаліся. У Другую сусветную 441 беларус стаў Героем Савецкага Саюза. Як і ў МУС, у арміі служаць у абсалютнай большасці людзі, народжаныя ў Беларусі. Нельга не пагадзіцца з чытачом, што дзіўна, чаму пры гэтым афіцэраў ураджэнцаў Беларусі ў кіраўніцтве толькі трое.

Міністр абароны Юры Жадобін нарадзіўся ў Днепрапятроўску (Украіна).

Першы намеснік абароны Пятро Ціханоўскі нарадзіўся ў вёсцы Сідарахка Клімавіцкага раёна.

Намеснік міністра абароны Міхаіл Пузікаў нарадзіўся ў вёсцы Гарадзішча №1 Бранскай вобласці (Расія).

Намеснік міністра абароны па ўзбраенні Ігар Лацянкоў нарадзіўся ў вёсцы Запясочча Жыткавіцкага раёна.

Намеснік міністра абароны па тыле Віталь Кірэеў нарадзіўся ў Магадане (Расія).

Камандуючы вайскова-паветранымі сіламі Алег Дзвігалеў нарадзіўся на востраве Вітэ Мурманскай вобласці (Расія).

Старшыня Памежнага камітэта Аляксандр Боечка нарадзіўся ў Жытомірскай вобласці (Украіна).

Першы намеснік старшыні Памежнага камітэта Аляксей Загародні нарадзіўся ў Калузе (Расія).

Намеснік старшыні Памежнага камітэта Васіль Гарбаценка нарадзіўся ў Чаромхаве Іркуцкай вобласці (Расія).

Намеснік старшыні Памежнага камітэта Анатоль Лапо нарадзіўся ў вёсцы Кулакоўка Бялыніцкага раёна.

Намеснік старшыні Памежнага камітэта Ігар Печань нарадзіўся ў Смаленску (Расія).

Сцісла

### Алег Алкаеў: Я хутка ўбачу відэазапіс забойства Захаранкі

Былы начальнік мінскага СІЗА сказаў, што наведваў Мінск з мэтай знайсці гэты відэазапіс. «Летась мне прапаноўвалі купіць гэтую касету за 250 тысяч даляраў, але ў мяне няма такіх грошай», — сказаў Алкаеў.

### Лукашэнка звольніў кіраўніка «Беллегпрама»...

...і грымець на ўрад. Адбылося гэта падчас наведвання прадпрыемства «Камволь». Як адзначыў першы намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў, гэтае прадпрыемства краіна амаль страціла.

### Гайдукевіч будзе вечным

На думку кіраўніка Ліберальна-дэмакратычнай партыі, у наступных прэзідэнцкіх выбарах будуць удзельнічаць чатыры, а магчыма і тры кандыдаты. Сам ён таксама абяцае вылучыцца. На выбарах 2001 і 2006 Гайдукевіч быў спарынг-партнёрам Лукашэнкі.

### Вінаградаў асуджаны на 5 сутак

За акцыю «Цацкі пратэстуюць», што адбылася 12 снежня каля Нацыянальнай бібліятэкі, у турму сеў былы палітвязень Павел Вінаградаў.

**ЗП**

# Улад Вялічка: **Я не думаю пра палітычную кар’еру**

У асобна ўзятым будынку на вуліцы Нававіленскай еўрапейскі шлях развіцця Беларусі відавочна перамог. Тут не толькі месціцца офіс Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь», але і фірма «Еўракрапёж». Пра еўрапейскі выбар, палітызацыю трэцяга сектара і прэзідэнцкія амбіцыі мы пагаварылі з кіраўніком «ЕўраБеларусі» Уладам Вялічкам.

**Улад Вялічка:** Я быў нацыянальным каардынатарам Форуму грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» па Беларусі два гады. Адзін з гадоў я быў сустаршынёй кіруючага камітэта ўсяго Форуму.

**«Наша Ніва»: Гэта нешта давала Беларусі?**

УВ: Калі пачыналася «Усходняе партнёрства», калі я туды трапіў, то гэта была крышку іншая дынаміка развіцця. Гэта было да 2010. Вядома, што на той момант УП шмат давала грамадству, стымулявала праеўрапейскія настроі. Тады колькасць людзей, што за праеўрапейскую будучыню краіны, стала большай за тых, хто за інтэграцыю з Расіяй. Гэта ўплывала і на магчымасці недзяржаўных арганізацый (НДА) прапанаваць сябе, свае ідэі для грамадзян Беларусі. Менавіта «Усходняе партнёрства» крыху прыадчыніла дзверы кантактаў з людзьмі.

**«НН»: Вы маеце на ўвазе толькі звычайных грамадзян ці таксама чыноўнікаў?**

**УВ:** Звычайных. Ад 2006 мы існавалі ў такой сітуацыі, калі НДА былі ізаляваныя ад грамадзян. Нічога нельга, праекты не рэгіструюцца. Крок направа ці налева — санкцыі, закрыцці, ціск. Калі дзяржава засведчыла цікавасць да «Усходняга партнёрства», тым самым яна дала магчымасць вальней дзейнічаць НДА. Такі перыяд працягнуўся крыху больш за год (другая палова 2009 і 2010). Пасля Плошчы можна было паставіць на гэтым крыж.

**«НН»: Праграма «Усходняга партнёрства» апынулася карыснай для Беларусі?**

**УВ:** Фактычна — гэта не праграма, а ініцыятыва. Геапалітычная ініцыятыва. Чакаць тут хуткіх вынікаў нельга. На сёння найбольш ад УП атрымліваюць тыя краіны, што самыя актыўныя. Малдова, нават Арменія, дзе не ўсё добра з правамі чалавека. Беларусы ж хочуць, як сказаў мой калега Андрэй Ягараў, дзейнічаць па схеме less for less (менш за меншае), а мне здаецца, што ўвогуле «меншае за нішто». Мы не выпусцім ніводнага палітвязня, але вы, Еўропа, нам нешта павінны. Так ніхто не працуе. Таму цяжка сказаць, што Беларусь мае. Раней праеўрапейская частка грамадства мела еўрапейскую перспектыву, цяпер пра гэта нават цяжка марыць. УП буксуе ў Беларусі праз абсалютную незацікаўленасць і варожасць улады.

**«НН»: «ЕўраБеларусь», Еўрасаюз, цяпер і Лукашэнка шмат гавораць пра мадэрнізацыю Беларусі. Ці адно і тое ж вы маеце на ўвазе?**

**УВ:** Добра было б даведацца. Слова «мадэрнізацыя», як і «дэмакратыя», — настолькі комплекснае, што ўкласці можна абсалютна розны сэнс. Цяпер мы засяроджваемся па пытаннях еўрапейскага «Дыялогу па мадэрнізацыі». Дык галоўнае слова «дыялог». Перш чым дайсці да мадэрнізацыі, давайце паразмаўляем. Інстытут з інстытутам, дзяржава з грамадствам. Цяпер такога дыялогу няма. Першаснае — гэта ўсталяванне камунікацый, як са сваімі прыхільнікамі, так і з апанентамі.

**«НН»: Цяпер перад Беларуссю больш востра стаіць пытанне еўрапеізацыі і ці еўраазіяцкасці?**

**УВ:** Адно для другога існуе як альтэрнатыва. У нас ёсць трыяда прыярытэтаў: дэсаветызацыя, беларусізацыя (не толькі этнічнае пытанне), еўрапеізацыя. Мы знаходзімся ў такім месцы, калі выбар невялікі. Праўда, кажуць пра нейкі трэці шлях паміж Захадам і Усходам, я ў яго не веру. Еўрапеізацыя — гэта наша мэта. Але пытанне, ці мы нанова яе ствараем, ці шлях кшталту «мы даўно не былі дома». Еўразійскага саюза не трэба было б баяцца, калі б у грамадстве была вольная дыскусія. Краіна вельмі падзеленая: маем два сцягі, дзве мовы, два геапалітычныя арыенціры. Гэта не зусім нармальна. Калі еўразійства стане чэсным выбарам беларусаў, то гэта можна было б толькі вітаць. Але мы знаходзімся ў такіх умовах, што не ўсе могуць рэальна выказаць сваё меркаванне.

**«НН»: Вы хочаце, каб гэтай біпалярнасці не было?**

**УВ:** Біпалярнасць — добрая рэч, бо стварае канкурэнцтва. Гегелеўскае адзінства і барацьбу супрацьлегласцей. Калі гэтая біпалярнасць існуе і ніяк паміж сабой не перасякаецца, гэта ненармальна. Праз сутыкненне пазіцый, напрыклад, у парламенце павінна стварацца нейкая цэльнасць. Калі запытацца ў шведаў, хто яны такія, што за імі стаіць і чаго яны хочуць, то разлёт адказаў будзе невялікі ў параўнанні з беларусамі.

**«НН»: Вам не здаецца, што для вялізнай колькасці нават палітызаваных людзей не зусім зразумела, чым займаецца беларускі «трэці сектар»?**

**УВ:** З двух бакоў можна паглядзець. 1) Гэта азначае не вельмі высокую эфектыўнасць грамадскага сектара. Калі людзі, якія маюць цікавасць да сацыяльна-палітычных пытанняў, нічога не ведаюць альбо кепска арыентуюцца ў грамадзянскай супольнасці, то нават да магчымай мэтавай групы арганізацыі дайсці не могуць. 2) Сочыш за публікацыямі ў «НН» і бачыш, што грамадзянская супольнасць не з’яўляецца для яе прыярытэтам. Дык адкуль яны могуць ведаць больш?

Шмат каму цяжка зрабіць сябе бачнымі. А потым усе гэтыя добрыя справы, ад дапамогі хворым дзецям да абароны паркаў і рэчак, не маюць шанцаў быць раскручанымі дастаткова. У адрозненне ад палітыкаў, якія селі, паразмаўлялі, ні да чаго не дамовіліся — і гэта на ўсіх сайтах.

**Улады хочуць ад Еўрасаюза «меншае за нішто»**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Улад Вялічка**

Нарадзіўся ў 1972 у Мінску. Скончыў гістарычны факультэт Педуніверсітэта (1995), скончыў аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі. Працаваў у адукацыйных грамадскіх арганізацыях. Ад 2007 — у кансорцыуме «ЕўраБеларусь». Жанаты, гадуе дачку Насту. Любіць спорт, рок-музыку. Дачка вучыцца ў беларускамоўнай гімназіі №23.

**«НН»: Што ўвогуле можна рабіць незалежнаму грамадству ці палітыкам пры ўмовах дыктатуры?**

**УВ:** Заўсёды актуальная задача сувязі актараў грамадзянскай супольнасці (палітыкі, НДА, самапомач) і сваіх мэтавых груп. Утрыманне кантактаў з людзьмі. У нас сёння няма механізмаў будавання вялікіх сяброўскіх арганізацый, але трэба знайсці механізмы, як трэба захоўваць гэтыя кантакты. Мне здаецца, што інфармацыйная прастора тут добра падыходзіць. Таму мы наш сайт Eurobelarus.info развіваем не як карпаратыўны, а як інфармацыйны.

**«НН»: Чаму беларускай мовы на вашым сайце так мала?**

**УВ:** Пытанне ўнутранай дыскусіі. Тут мы залежнікі кан'юнктуры. Для таго, каб мы былі заўважаныя ў пошукавіках, нам сказалі, што трэба пісаць па-расейску. У нас ёсць правіла, што не меней за 30% матэрыялаў па-беларуску. Але гэта такі кампрамісны варыянт.

**«НН»: Ці слушна казаць, што «трэці сектар» палітызуецца?**

**УВ:** Для мяне такога пытання не існуе. «Палітызацыю» таксама можна напоўніць рознымі зместамі. У жорсткіх палітычных умовах Беларусі сітуацыя ўнутры краіны так жорстка палітызаваная, што палітызацыя «трэцяга сектара» не можа быць марай ці задачай. У нас палітызаваная адукацыя, медыйная прастора, а таксама і грамадскі сектар. Калі кажуць пра палітызацыю, то гэтыя людзі ці ўкладваюць нешта іншае ў гэтае слова, ці хочуць дабіцца сваіх мэтаў нейкіх. Калі «палітызацыяй» называць актывізацыю камунікацый з партыямі ці дзяржавай, то гэта нармальная фаза развіцця «трэцяга сектара». Мы не можам ігнараваць іншыя суб’екты.

**«НН»: Цяпер усё болей гавораць, што ад «трэцяга сектара» можа быць вылучаны кандыдат у прэзідэнты. Гэта магчыма?**

**УВ:** Я нічога пра гэта не ведаю. Я ніколі не чуў, каб «трэці сектар» займаўся абмеркаваннем адзінага кандыдата ці кандыдата са сваіх шэрагаў. Я чуў шмат спекуляцый. Але ўсе гэтыя размовы адбываюцца без мяне. Я дакладна ведаю, што грамадскі сектар павінен заставацца ў грамадскай ролі, а палітычны — у палітычнай. Калі нехта з грамадскага сектара абвяшчае сябе палітыкам, то ён і павінен быць у палітычным сектары. Як было з Мілінкевічам.

**«НН»: Часам і Вас называюць як імавернага кандыдата ў прэзідэнты сярод гэтых «спекуляцый».**

**УВ:** Ой, слухайце, і што з гэтым рабіць?! Калі маё прозвішча называецца, то гэта значыць, што зробленае мною за апошнія гады вартае ўвагі. Мне гэта прыемна. У сярэднетэрміновай перспектыве я не збіраюся думаць пра палітычную кар’еру, бо не лічу існуючыя ўмовы падыходзячымі. Магчыма, гадоў праз 20 гэтае пытанне будзе актуальнае. Зрэшты, колькі б Уладзімір Мацкевіч ні заяўляў пра адсутнасць палітычных планаў, яму ніхто не верыць.

**«НН»: Дык Мацкевіч нарадзіўся ў Расіі, значыць, не можа балатавацца.**

**УВ:** Ну, вы гэта ведаеце. Але знаходзяцца тыя, што кажуць: «Можна ж знайсці нейкія дзіркі». Гэта спекуляцыі і канспіралагічныя тэорыі. А падкілімнымі размовамі я не займаюся.

**«НН»: Еўрасаюз цяпер, здаецца, ігнаруе беларускія ўлады. Значыць, санкцыі і дыялог не дзейнічалі?**

**УВ:** Калі чую, што ЕС нешта не так робіць, то кажу, што ЕС робіць роўна столькі, колькі здольны. Еўрасаюз мае вельмі маленькую магчымасць уплываць на нашы падзеі, асабліва, калі Беларусь мае падпітку з Расеі. Пазіцыя ЕС цалкам правільная. Ці больш, ці менш было б троху неадэкватна. Казаць, што сітуацыя перайшла ў фазу ігнаравання, не стаў бы. На неафіцыйным узроўні ідзе шчыльная камунікацыя. Развіваецца ж гандаль з Еўропай.

**«НН»: За кошт нафтапрадуктаў.**

**УВ:** Так. Але і без іх існуе эфектыўная дынаміка. Відавочна, што сённяшняя сітуацыя не задавальняе абодва бакі. Нашы ўлады неафіцыйна спрабуюць шукаць, можа, так, а можа, вось гэтак нармалізаваць адносіны. Але яны спрабуюць зрабіць гэта з мінімальнымі стратамі для сябе — рэпутацыйнымі, эканамічнымі, палітычнымі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Якая крама тэхнікі найтаннейшая?

**«Карона-Тэхна», «Пяты элемент» і «Электрасіла»** змагаюцца за кліентаў.



У продажы любыя тэлевізары, ад малых да велічэзных.

Найлепшы падарунак — ужо не кніга. Да такой высновы можна прыйсці, убачыўшы перадНавагоднія чэргі каля мінскіх крамаў тэхнікі. Лядоўні, пральныя машыны, але перадусім тэлевізары — усё гэта ідзе на «ўра». Але ў якой краме тавар таннейшы?

«Наша Ніва» параўноўвае цэны ў асноўных сетках тэхнікі («Пяты элемент», «Карона-Тэхна» і «Электрасіла»), пераЁўшы іх у даляры. Для даведкі прывядзём таксама цану ў інтэрнэт-крамах.

Знайсці мадэль, якая прадавалася б адразу ва ўсіх сетках, складана. Тым больш што крамы не дбаюць пра патэнцыйных купцоў — ніводная не вывешвае на свой сайт уцямнага каталога тэхнікі з цэнамі.

Але лідар бачны і на прыкладзе адвольна ўзятых дзесяці папулярных тавараў. Сем разоў найменшая цана ў «Кароне-Тэхна», па адным разе — у «Пятым элеменце» і «Электрасіле». У выпадку ж з пральнай машынай «Атлант» — абсалютная нічыя.

Розніца паміж самай дарагой і самай таннай прапановай часам дасягае 50%! На еўрапейскім рынку такая нацэнка зрабіла б прадаўца неканкурэнтаздольным. У Беларусі ж адбываецца інакш. Сеткі, прадстаўленыя ў дробных гарадах, не маюць канкурэнцыі, таму могуць выстаўляць адвольныя цэны.

У інтэрнэце ж цана яшчэ меншая, чым у «Кароне-Тэхна»! Чаму ж не ўсе беларусы купляюць у Сеціве, калі там танней? Усё вельмі проста. Сеткі дазваляюць купляць тавар, заплаціўшы сваімі грашыма толькі 10% ад цаны ці нават менш. На астатнюю суму афармляецца крэдыт. І хоць рэальная стаўка складае 35% гадавых і нават больш, гэта не адштурхоўвае кліентаў — нейкую частку крэдыту з'ядуць інфляцыя з дэвальвацыяй.

У некаторых выпадках можна атрымаць нават беспрацэнтную растэрміноўку. Такую прапанову робіць, напрыклад, «Карона-Тэхна». Праўда, у растэрміноўку выдаецца не ўвесь тавар. Тэлевізары ўзяць не ўдасца.

**Ягор Марціновіч**

ЭЛЕКТРОСИЛА

«Электрасіла» — 17 крамаў (Мінск, Баранавічы, Барысаў, Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Магілёў, Мазыр). Уладальнік — Андрэй Хоміч.

ТЕХНО

«Карона-Тэхна» — 5 крамаў (Мінск, Брэст, Бабруйск, Віцебск). Уладальнік — Павел Тапузідзіс.

5 ЭЛЕМЕНТ электроника и бытовая техника

«Пяты элемент» — 28 крамаў (Мінск, Баранавічы, Бабруйск, Барысаў, Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Жлобін, Ліда, Магілёў, Маладзечна, Наваполацк, Орша, Пінск, Полацк, Салігорск). Уладальнік — Андрэй Балабін.

| | Пяты элемент* | Карона-Тэхна | Электрасіла | Інтэрнэт-крамы |
|---|---|---|---|---|
| **Тэлевізары** | | | | |
| LG42pa4510 (плазма) | $820 | **$550** | $738 | $530 |
| Samsung UE40EH6037 | $882 | **$822** | $890 | $730 |
| Toshiba 32av933 | $468 | **$390** | $444 | $358 |
| **Пральныя машыны** | | | | |
| Атлант 60с106 | $339 | $339 | $339 | $301 |
| Samsung wf1600WCW | $527 | **$460** | $519 | $409 |
| **Халадзільнікі** | | | | |
| Атлант 6021 | $478 | **$464** | $478 | $425 |
| LG b409ueca | $773 | **$600** | $760 | $594 |
| **Пыласос** | | | | |
| Bosch bsg62185 | **$117** | $148 | $165 | $126 |
| **Кухонны камбайн** | | | | |
| Philips hr7761 | $149 | **$140** | $154 | $112 |
| **Прынтар+сканер** | | | | |
| HP Deskjet 3515 | $117 | $121 | **$114** | $103 |
| Курс даляра — 8 540 | | | | |
| * «5 элемент» мае анлайн-краму, у якой тэхніка можа быць да 10% танней, чым у салоне | | | | |

## Белстат ізноў абвяргае Лукашэнку

Як з 1 тоны нямецкага рапсу атрымаць дызельнага **паліва на $3 мільярды**?

Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз расказаў «усю праўду» пра экспарт растваральнікаў і распушчальнікаў, атрыманых з расійскай нафты. Адказваючы на пытанні рэдактараў газет з краін СНД, ён заявіў, што «значную долю ў экспарце складалі не растваральнікі, а біядызельнае паліва».

Белстат гэты момант удакладняе. Па яго падліках, сёлета за студзень-кастрычнік краіна экспартавала біядызеля на $2,9 мільярда, растваральнікаў на $2,8 мільярда і змазачных матэрыялаў на $1 мільярд.

Аднак трыумфальным стаў іншы пасаж. «У Беларусі дызельнае паліва з высокім утрыманнем серы перапрацоўвалі на НПЗ, — расказваў Лукашэнка. — Пасля ў немцаў куплялі рапсавы алей і іншыя кампаненты, рабілі біядызельнае паліва і прадавалі». Насамрэч жа «нямецкага рапсавага алею» за дзесяць месяцаў была куплена роўна... адна тона. Як з дапамогай гэтай тоны ўдалося атрымаць біядызеля ажно на тры мільярды, так і засталося загадкай.

**ЯМ**

## Ці выгадна купляць дзяржаўныя аблігацыі?

Продаж каштоўных папер насельніцтву **пачынаецца 20 снежня**.

Міністэрства фінансаў пачынае продаж насельніцтву дзвюх серый дзяржаўных беларускіх аблігацый. Ужо з 20 снежня 2012 года кожны ахвотны зможа набыць сабе каштоўныя паперы. Для куплі пашпарт не патрэбны.

У першай серыі будуць прадавацца 50 тысяч аблігацый па $200, у другой — 40 тысяч па $1000. Даходнасць у іх будзе аднолькавай — 7% гадавых. Праз паўгода з іх можна будзе зняць працэнты, а з 20 снежня 2013 года пагасіць аблігацыі.

Ці выгадная гэта стаўка? У параўнанні з прапановамі камерцыйных банкаў — так. На сёння можна знайсці ўклад на год хіба што з даходнасцю 5-6% гадавых.

Рызыку невяртання грошай дзяржавай разглядаць нярварта. Таму асноўны недахоп куплі аблігацый — немагчымасць зняць грошы датэрмінова.

**ЯМ**

## Кошт нерухомасці вярнуўся на дадэвальвацыйны ўзровень

Сярэдняя цана метра дасягнула **$1370**.

Рынак мінскай нерухомасці вярнуўся на дадэвальвацыйны ўзровень. Паводле дадзеных партала Realt.by, сярэдні кошт прапановы квадратнага метра на дадзены момант складае $1368. Апошні раз на такім узроўні ён быў у маі 2011 года, пасля чаго пачалося падзенне, якое працягвалася да ліпеня 2012 года. За апошнія месяцы нерухомасць падаражэла ўжо на 5%. Адпакаўёкі тым часам ушчыльную падышлі да цаны $1400 за квадратны метр.

Калі казаць пра сярэдні кошт зарэгістраваных угодаў, то ў лістападзе ён упершыню з часу дэвальвацый пераваліў псіхалагічную адзнаку $1300 за квадратны метр і спыніўся на ўзроўні $1308. Пры гэтым попыт застаецца надзвычай высокім. За апошнія два месяцы было прададзена 2 236 кватэраў. Для параўнання, летась у той жа час гаспадара змянілі толькі 1 511 кватэраў.

**ЯМ**

## Сцісла

### Прырост беларускага ВУП запавольваецца

За 11 месяцаў 2012 года валавы ўнутраны прадукт Беларусі вырас усяго на 2% у параўнанні з леташнім перыядам. Па выніках года лічба зменшыцца, хоць, згодна з афіцыйным прагнозам, у 2012 годзе ВУП павінен узрасці на 5–5,5%.

### Машэнскі набывае «Рускае мора»

Брэсцкі мільянер плануе выкупіць Нагінскі рыбакансервавы камбінат, на якім выпрабляецца асноўная доля прадукцыі кампаніі «Рускае мора». Сума ўгоды не раскрываецца, але ўдзельнікі рынку ацэньваюць яе на $50–55 мільёнаў.

### Медагляд падаражэў на 30%

Міністэрства аховы здароўя ўвяло новыя тарыфы на медыцынскія агляды. Іх трэба праходзіць для таго, каб атрымаць пасведчанне кіроўцы, а таксама, каб мець зброю. Цяпер мужчынам за даведку давядзецца плаціць 70 тысяч рублёў, а жанчынам — 85 тысяч за кошт дадатковага агляду гінеколага.

**ЯМ**

# Адкрыўся «Замак» — найбуйнейшы гандлёвы цэнтр краіны

Лядовая пляцоўка, кінатэатр і атракцыёны **запрацуюць праз год-два**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На сталічным праспекце Пераможцаў, насупраць новай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы, пачаў працу найбуйнейшы гандлёвы цэнтр краіны «Замак». Ён належыць кампаніі «Тытунь-Інвест» мільянера Паўла Тапузідзіса.

Пакуль што запрацаваў толькі першы паверх будынка. На ім знаходзяцца прадуктовы гіпермаркет «Карона», крама тэхнікі «Карона-Тэхна» і некалькі дробных крамак. Час працы гандлёвага цэнтра — з 9.00 да 23.00. Купцы могуць карыстацца шасціпавярховым паркінгам на 2000 машын.

Уверсе плануецца начны клуб з трыма барамі, казіно, рэстараны, кінатэатр з трох залаў, зала гульнявых аўтаматаў, атракцыёны і крытая лядовая пляцоўка. Яны адкрыюцца ў 2013–2014 гадах.

Агулам «Замак» будзе мець 28 тысяч гандлёвых квадратных метраў. Для параўнання, ЦУМ меншы ўтрая.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**




**Бязлітасная і бессэнсоўная зніжка на гусь**

Адзін з мінскіх гіпермаркетаў прапануе зніжку на філе гусі аж 50 рублёў. Замест 220 450 рублёў новая цана склала 220 400. Зніжка аж цэлых 0,022%.

## Казіятка і Якубовіч: Вялікія начальнікі чытаюць не «СБ», а «Хартыю'97»

Яшчэ адно прызнанне: ананімаў у інтэрнэце «**спецслужбы гадуюць** у розных мэтах».

Незалежныя СМІ карыстаюцца папулярнасцю ў вялікіх начальнікаў. Да такой высновы прыйшлі галоўны рэдактар «Советской Белоруссіі» Павел Якубовіч і вядучы перадачы «Карціна свету» Юрый Казіятка ў эфіры канала «РТР-Беларусь».

«Мы ведаем, што на грошы Еўрасаюза ўтрымліваюцца ў тым ліку і апазіцыйныя СМІ. Ці з'яўляюцца яны ўзорам журналістыкі, ці гэта савецкая махроўшчына?» — задаваў тон Казіятка.

«Там ёсць савецкі бальшавіцкі прапагандызм», — растлумачыў Якубовіч.

Пасля размова перайшла на Вікторыю Папову, якая днямі нервова зрэагавала на нявіннае пытанне журналіста «Еўрарадыё» пра «Еўрабачанне». «Гэта проста дрэнны густ, дробнае хуліганства і подласць, — апісаў рэдактар «СБ» дзеянні Змітра Лукашука. — Так сябе хамы ў трамваі паводзяць. Папова мае права беларусаў любіць ці не любіць па той простай прычыне, што яна сама беларуска», — апраўдваў падначаленую Якубовіч.

«Яна мела на ўвазе беларускамоўных журналістаў ці журналістаў, якія размаўляюць на трасянцы?» — перапытаў Казіятка. «Такіх пріставучых, бестактоўных і нахабных людзей, якія званяць ёй дадому, на яе хатні тэлефон, і спрабуюць нешта з рота вырваць», — кляйміў Якубовіч.

Пасля сталі абмяркоўваць папулярнасць друкаваных СМІ і інтэрнэту. «За мінскай кальцавой не чытаюць апазіцыйныя газеты. 30%, 40%, часам 60% гэтых газет ідзе ва ўтыль», — падзяліўся сваімі падлікамі рэдактар «СБ». Пытанні вяртання самой «Саўбеліі», роўна як і фактаў прымусовай падпіскі на дзяржвыданні, не закраналіся.

Казіятка выказаў думку, што многія вялікія начальнікі могуць не прачытаць «Советскую Белоруссію» і не глядзець тэлеканал, а чытаюць нейкія недзяржаўныя сайты.

Якубовіч пагадзіўся, што глядзяць «Хартыю'97», але не для інфарматыўнасці, а каб даведацца, што сказалі пра суседа па кабінеце.

Асабліва яго раздражняе, што «на кожны чых «Хартыі» і яшчэ чагосьці прачынаецца нейкае пачуццё пільнасці, маўляў, вы чыталі, што пра вас напісалі?». «Я адказваю, пачыталі б вы лепш Дыкенса», — прызнаўся Якубовіч.

Загаварылі пра ананімаў у інтэрнэце. «Мы ж разумеем, што часам спецслужбы гадуюць іх у розных мэтах. Гэта ж проста вызначыць: хто напісаў і які IP-адрас», —раптам прызнаўся Казіятка. Якубовіч разгубіўся: «Гэта дрэнна, гэта дрэнна. У мяне няма панацэі ад таго, як ад іх пазбавіцца. Я не хачу на гэтую тэму гаварыць».

**ЯМ**

## Сённяшні сухпаёк: тушонка, галеты, спецназу — шакалад

Чым **харчуюцца вайскоўцы** на вучэннях.

У «НН» звярнуўся чытач Анатоль С., які пытаўся, што сёння ўяўляе сабой сухпаёк у войску, каб параўнаць яго з колішнім савецкім.

Як і ў многіх іншых арміях свету, у беларускім войску сухі паёк захоўваецца ў кардонным карабе. Стандартны набор складаецца з бляшанкі тушонкі, дзвюх бляшанак мясараслінных кансерваў, двух пакункаў з прэснымі галетамі, чатырох пакецікаў чаю, васьмі пакецікаў цукру, набору гігіенічных сурвэтак.

Сухпаёк для спецназаўцаў адрозніваецца ад астатніх наяўнасцю шакаладу (15 грам на суткі). Таксама ў спецназаўскі пакет кладуць некалькі карамельных цукерак.

Вайсковы сухпаёк можна ўжываць як халодным, так і разагрэтым. Для гэтага ў набор кладуць адмысловыя запалкі і некалькі таблетак сухога спірту. Сухпайкі могуць быць меншага памеру — яны разлічаныя на адзін прыём ежы.

У Беларусі адмысловыя для войска кансервы не выпускаюцца. Нашы вайскоўцы ядуць тушонку айчынных вытворцаў, якую можна набыць у любой краме. Але беларускі сухпай не купіш у адмысловых крамах і не замовіш праз інтэрнэт, як у Расіі.

У еўрапейскіх арміях, а таксама ў ЗША, харчовыя наборы, як правіла, складаюцца з гатаваных страваў, якія трэба толькі разагрэць.

Амерыканскі сухпай (Meal, Ready-To-Eat — «Ежа, гатовая да ўжывання») прадугледжвае набор з асноўнай стравы і дадатковых кампанентаў. MRE здольны задаволіць усе густы, ён складаецца з больш чым двух дзясяткаў варыянтаў страваў — ад равіёлі з ялавічынай да свіных рэбраў з бульбяным супам і сырам чэдар.

**Сямён Печанко**

## Палова Гродна дзень заставалася без цяпла

Пры мінус дзевяці градусах **прарвала цеплапровад**.

Прыватны сектар паміж шматпавярховікамі на вуліцы Белуша затапіла кіпенем.

Прарыў здарыўся 18 снежня а 3-й ночы. Ён быў такі моцны, што прыйшлося нават эвакуяваць жыхароў некаторых прыватных дамоў. Іх падворкі затапіла. Вышыня гарачага вадзянога патоку дасягала метра.



Спяшаючы на енк дзіцяці, адзін з выратавальнікаў зваліўся ў гарачую ваду. Ён атрымаў апёкі пятай часткі цела. Па словах медыкаў, яго жыццю нічога не пагражае. Яшчэ адзін выратавальнік апёкся значна менш. З-за падмыву дарогі ў яміны правалілася пяць легкавікоў.

Цеплапровад прарвала на вуліцы Белуша, 20а, а замярзала вялікая частка горада. Каб ліквідаваць наступствы аварыі, камунальнікі адключылі цяпло ў дзясятках дамоў на Фолюшы, Вішняўцы. Праз гэта адмянілі заняткі ў некаторых школах і садках.

У Гродзенскім гарвыканкаме паведамілі, што аварыю пасля абеду ліквідавалі. Яшчэ не падлічана нанесеная шкода.

Каб у кватэры гарадзенцаў зноў пусціць цяпло, давялося адпампоўваць ваду і праводзіць перазапітку цеплазабеспячэння жылога сектара абводнымі трубаправодамі.

**Алесь Кіркевіч, Кастусь Матушыч**

# Амерыканка кіруе пратэзам сігналамі мозгу

Працяг са старонкі 1.

Джэн змагла выконваць простыя дзеянні ўжо праз два дні. Пастаянная практыка толькі паляпшае хуткасць і ўзровень кантролю за пратэзам: пацыентка ўжо можа карміць сябе. Яна таксама выканала некалькі практыкаванняў з комплексу для пасляінфарктнай рэабілітацыі і не саступіла ў хуткасці непаралізаваным людзям. Даследчыкі вераць, што з часам удасца наладзіць і зваротную сувязь: праз сэнсары ў пратэзе ў мозг Джэн зможа прыходзіць інфармацыя пра тэмпературу аб'ектаў і г.д.

Гэтае дасягненне амерыканскіх навукоўцаў — прадвеснік вялікага прарыву ў тэхналогіях «расшыфроўкі думак», дыстанцыйнай перадачы сігналаў мозгу.

Навукоўцы ва ўсім свеце робяць вялікія поспехі ў стварэнні пратэзаў, кантраляваных імпульсамі галаўнога мозгу. Ужо існуюць тэхналогіі, якія дазваляюць паралізаваным друкаваць, проста думаючы пра літары, а ў мінулым месяцы ў Швейцарыі сляпому чалавеку ў сятчатку былі імплантаваны электроды, якія дазволілі яму «бачыць» шрыфт Брайля праз зрокавы нерв і чытаць без дапамогі рук.

Выказваюцца меркаванні, што з хуткім развіццём падобных тэхналогій стане магчымым «абысці» пашкоджаныя нервы з дапамогай штучных і ажывіць паралізаваныя цягліцы. Рабатызаваныя пратэзы кшталту таго, якім карыстаецца Джэн Шэрман, могуць развіцца ў сапраўдныя экрашкілеты, якія заменяць паралізаваным свае канечнасці.

А дыстанцыйная перадача сігналаў мозгу будзе выкарыстоўвацца ў самых розных сферах.

**Кірыла Хілько**

**Фотафакт**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Мінскія камунальнікі вырасцілі гіганцкі лядзяш: 8 метраў**

Асаблівасці беларускага надвор'я і хібы мантажу вадасцёкаў выгадавалі на вуліцы Залатая Горка ў Мінску надзвычай даўгі лядзяш.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Антон Сурапін не ведае, што з ягонай справай

Фатограф усё яшчэ знаходзіцца **пад падпіскай** аб нявыездзе.

Фатограф Антон Сурапін быў вызвалены з ізалятара КДБ чатыры месяцы таму. Але да сёння так і не ведае, у якім статусе застаецца. Прынамсі, на допыты яго больш не выклікалі. А звяртацца самому ў тую ўстанову лічыць непрыемным. Чакае, што нейкая яснасць будзе пасля суда над памежнікам, які прапусціў шведскі «плюшавы дэсант».

Хлопец вучыцца на 4 курсе журфака БДУ. Кажа, што ніякіх праблем не мае. І размоваў з адміністрацыяй пра зняволенне не было. «Нават дэкан Дубовік не выклікаў, пакуль я сам да яго не прыйшоў». Сурапін звярнуўся да яго па каментар для артыкула. «А, той герой... » — толькі і сказаў Дубовік.

За студэнцкую практыку Сурапін атрымаў восем балаў.

У ліпені фатограф першым выставіў здымкі плюшавых мядзведзікаў, якіх скідалі шведы з самалёта 4 ліпеня. За гэта яго арыштавалі і абвінавацілі ў саўдзеле ў злачынстве і незаконным перасячэнні мяжы. Як аказалася, тое фота яму перадала дзяўчына Каця Скурат з Івянца. Па вызваленні хлопец публічна прапанаваў ёй ажаніцца. Але гісторыя не атрымала працягу. Цяпер Антон не хоча гаварыць пра прыватнае жыццё.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сафія Гройсман: «Я б стварыла добры водар для Лукашэнкі, але пакуль не давялося»



Амерыканская парфумерка прэзентавала **водар «Белая Русь»**, якім могуць карыстацца і мужчыны, і жанчыны.

Водар мае працоўную назву «Жаданне прахалоды». Пасля нанясення парфумы на скуру на вуснах з'яўляецца салодкі смак.

«Гэта такі спецыфічны ход, — кажа Гройсман (на фота), амерыканка, якая нарадзілася ў Любчы. — Проста я вельмі люблю Беларусь, вось і хацелася перадаць пры дапамозе водару гэтае бязмежнае адчуванне прасторы і свабоды, якое ёсць у нашай краіне».

Насамрэч водар атрымаўся цікавым — досыць лёгкім і пры гэтым запамінальным. Сафія Гройсман у свой час з водарам «Трэзор» пераўзышла па папулярнасці знакамітую «Шанэль нумар пяць», таму новы водар можа стаць не менш папулярным.

Падчас скайп-канферэнцыі з беларускімі журналістамі спадарыня Гройсман абвергла чуткі, што стварала «асабісты» водар для Лукашэнкі. «Я б стварыла для яго добры водар, але пакуль мне гэта не прапаноўвалі».

Пра Беларусь Сафія Гройсман узгадвае з цеплынёй — у апошні свой прыезд нават знайшла родную хату.

«У дзяцінстве ў мяне не было цацак, таму я гулялася з кветкамі, — узгадвае Гройсман. — Менавіта дзіцячыя ўспаміны, уражанні і дапамаглі мне стаць парфумерам».

«Белая Русь», калі яна з'явіцца на прылаўках, будзе дарагой парфумай — у яе ўваходзяць рэдкія інгрэдыенты.

«Правільная назва парфумы — «Белая Русь», без «нумар пяць», проста я зрабіла дзесяць розных варыянтаў водару, і найлепшым апынуўся пяты, — смяецца Гройсман. — Гэтай парфумай могуць карыстацца і мужчыны, і жанчыны. Спадзяюся, дзякуючы ёй Беларусь стане больш вядомай у свеце».

**Юрась Ускоў**

## Хто Вы такі? Дэпард'ё жорстка адказаў прэм'ер-міністру Францыі

Сусветна вядомы французскі акцёр Жэрар Дэпард'ё адказаў прэм'ер-міністру Францыі Жану Марку Эро, які назваў яго «мізэрным» за тое, што акцёр пераехаў жыць у Бельгію. Дэпард'ё прыняў рашэнне эміграваць з Францыі ў Бельгію, каб не плаціць высокага падатку. Урад сацыялістаў узняў стаўку падаткаў для самых багатых да 75%.

«За 45 гадоў я выплаціў 145 млн падаткаў, даў працу людзям у кампаніях, якія былі створаны для іх і кіруюцца імі. Я не хваліўся і не скарджуся, але я адмаўляюся прыняць слова «мізэрны»! Хто Вы такі, каб мяне судзіць, я Вас пытаюся, месье Эйро, прэм'ер-міністр месье Алянда, я Вас пытаюся! Хто Вы такі?» — напісаў Дэпард'ё ў адкрытым лісце.

**СГ**

# Фразы, за якія 25 гадоў таму можна было б трапіць у дурдом

Тэхналогіі **ўдасканальваюць наша жыццё** і ўзбагачаюць мову.

Блін, не магу ўвайсці ў пошту.
Я тэлефон дома забыўся.
Я зарабляю тры мільёны.
Давай падорым яму хатні кінатэатр.
Дай мне дзве тысячы рублёў на метро.
А для паездкі ў Крым віза трэба?
Уваткні мне зарадку.
У мяне ўжо рука замерзла з табой размаўляць.
Я табе ліст дзесяць хвілін назад паслаў, ты атрымаў?
Скінь мне фота на мыла.
Я не магу з табой размаўляць, ты ўвесь час знікаеш.
Пакладзі мне грошы на трубу.
Я заўтра сабе мазгоў дакуплю.
Я качаю эльфа.
Ды ты на тэлефоне палічы.
У цябе венік якога аб'ёму?
Перайменуй папку.
Івана няма дома, ён у войску. Вы яму пазваніце.
Пакуль машына ехала, паспела кнігу паслухаць.
Давай злётаем на Мальдывы!
БАТЭ перамог «Баварыю».
Радыё «Свабода» можна не толькі слухаць, але і чытаць.
У мяне танк скралі, пайду ў міліцыю.
Памяняй мне расійскія рублі на беларускія.
Беларусь будзе абараняць сваю незалежнасць!

## Чые імёны шукаюць у інтэрнэце найчасцей?

Топ-10 беларускіх зорак — **ад Міхалка да Сітнік**.

«Наша Ніва» вывучыла, колькі разоў карыстальнікі Google і «Яндэкса» шукалі імёны беларускіх зорак у інтэрнэце за апошні год.

Абсалютным лідарам спіса стаў Сяргей Міхалок. Мы аб'ядналі запыты ягонага імені з назвай ягонага гурту «Ляпіс Трубяцкой». У выніку на «Яндэксе» набралася больш за 2,5 мільёна запытаў. Наколькі гэта крута для расійскага рынку? Для параўнання, самы папулярны спявак усходніх суседзяў, Стас Міхайлаў, мае каля 10 мільёнаў.

Канкураваць з Міхалком змагла толькі спявачка Б'янка. Раней яна выступала з рэперам Сярогам, але цяпер зрабіла сольную кар'еру ў прыдуманым ёй стылі «рускі народны R'N'B» — бадзёры рэчытатыў пад балалайку.

Натхняльнік Б'янкі Сярога таксама трапіў у тройку прызёраў. Далей ідуць Анжаліка Агурбаш, Вікторыя Азаранка, Наталля Падольская, Дзмітрый Шэпелеў, Дар'я Домрачава, Ксенія Сітнік і Аляксандр Глеб.

**Ягор Марціновіч**



Папулярней за Б'янку ў інтэрнэце толькі Міхалок.

## Не Домрачавай адзінай!

**Надзея Скардзіна** ўпершыню ўзяла медаль на этапах Кубка свету па біятлоне.

Лідар нашай біятлоннай зборнай Дар'я Домрачава загрыпавала, таму не змагла ўзяць удзел у дзвюх гонках на этапе Кубка ў славенскай Паклюцы.

Ролю лідара ў гэты момант узяла на сябе Надзея Скардзіна. Беларуска і раней вызначалася добрай стральбой, але кепскім ходам. На гэты раз усё супала. Надзея прайшла гонку без промахаў і па хуткасці была сярод лідараў — гэта дазволіла заняць трэцяе месца. Першы подыум у кар'еры. Наперадзе апынулася чэшка Соўкалава і немка Гёснэр.

Праз дзень у гонцы праследавання Скардзіна была шостай. Наступныя гонкі сезона адбудуцца ўжо ў 2013 годзе.

**Зміцер Панкавец**



GOALS.BY



**Камертон Сяргея Ваганава**

## «Крынкавы» сацыялізм, альбо Тэатр ценяў

Час ад часу на нашу бедную краіну нешта валіцца з неба.

То «плюшавыя мядзведзікі», то расійскі прэс-дэсант, то галоўныя рэдактары з нейкага эсэндэўскага Клуба, пра якія дасюль не было нават чуваць.

I ўсё дзеля таго, каб «паабшчацца» з Аляксандрам Рыгоравічам, дазнацца ад яго пра нешта такое, пра што астатні свет яшчэ не ведаў і не чуў. Пра тое, напрыклад, як спалучыць «моцную руку» з дэмакратыяй альбо рынак з сацыялізмам.

Адзін з галоўных рэдактараў, мабыць, уражаны таямнічымі парадоксамі «беларускага цуду», так і запытаўся: якую вы будуеце дзяржаву? Адказ Галоўнага Будаўніка быў, як заўсёды, шчыры і просты: сацыялістычную...

Я так захапіўся гэтым адказам, што нават не адразу схамянуўся, што ў сацыялістычнай дзяржаве прайшло ўсё маё жыццё. Яшчэ за пяць гадоў да нараджэння Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, у якім мне было наканавана жыць, быў абвешчаны «краінай сацыялізму, які перамог». Навошта ж ізноў будаваць тое, што ўжо даўно пераможна пабудавана?

Вядома, разваліўся будынак, але ж рэшта толькі пахіснулася і стаіць, як тая вежа ў Пізе. Ёсць, праўда, і адрозненне: вежа трымаецца нейкім таямнічым будаўнічым разлікам, а беларускі сацыялізм — падпоркамі, якія вырабляюцца ў Крамлі, і павынаходніцку ўзмацняюцца дамарослымі дэкрэтамі, лісцівымі абгрунтаваннямі ды пустымі, бы нейкія балотныя бурбалкі, прапановамі клеўрэтаў.

Вось, напрыклад, як душэўна тлумачыць з'яўленне «прыгонніцкага» дэкрэта № 9 начальнік, так бы мовіць, беларускіх сенатараў Рубінаў: «Но иногда, чтобы сделать людям лучше, надо их самих немного поприжать». Такі вось інтэлектуальна ўзнёслы сацыялістычны перл!

Спачатку я хацеў папракнуць яго ў памылковасці. I праўда, дзесяцігоддзямі прыцiскалі, а лепей так і не стала.

Потым мяне падхапіла і панесла хваля падазронасці: ці не кліча начальнік сенатараў да вяртання ў ГУЛАГ?! Вось дзе канчатковa спраўдзілася б ягоная мара аб усеагульным шчасці!

Але ў рэшце рэшт уцяміў: ці не валодаюць аўтарам выказвання нейкія няздзейсныя фрэйдзісцкія жарсці? А мо ён ахвяра старэючага лібіда? Тут магчыма толькі паспачуваць. Бо ўзняцца ад «туалетища» да «поприжать», каб «сделать лучше» — амаль што смяротны нумар...

Асабліва спрактыкаваўся ва ўмацоўванні згаданых падпорак іншы, трохі маладзейшы персанаж айчыннага тэатра ценяў — віцэ-прэм'ер Тозік.

Тут, праўда, ёсць невялікае адрозненне: калі ў словазлучэнні «рынкавы сацыялізм» Рубінаў увасабляе «сацыялізм», то «кітаязнаўца» Тозік — мысліць «рынкавымі» паняццямі. То прапаноўвае ўвесці плату за наведванне паліклінік, каб не было чэргаў; то разгарнуць барацьбу з ценявымі даходамі праз іх усеагульнае дэклараванне. Нават падлічыў, што ў цяні беларускага сацыялізму хаваюцца «каля 400 тысяч чалавек — тых, хто не працуе ці фактычна працуе, сыходзячы ад падаткаў, і тым самым паразітуюць на сацыяльнай паліцыі дзяржавы»...

### Навошта будаваць тое, што ўжо даўно пераможна пабудавана?

Цікава, ці ёсць сярод гэтых 400 тысяч паразітаў наша сціплае чынавенства? Ці толькі ўзгаданыя Тозікам бамжы ды псеўдабеспрацоўныя? Па Тозіку — чынавенства няма, бо яно чэсна дэкларуе свае даходы. А што «забываецца» пры тым на шматлікіх сваякоў, дык «сын за бацьку не адказвае», ці не гэтак?

Але ці можа цень змагацца з ценем?

Увогуле лічу, што свой кітайскі вопыт спадар Тозік выкарыстоўвае не на ўсю моц. Ёсць спосаб барацьбы з ценявымі даходамі больш эфектыўны за ўсеагульнае дэклараванне: узяць ды расстраляць каля 400 тысяч чалавек, толькі не памыліцца ў падліку. Адразу знікнуць аўтазаторы на мінскіх вуліцах і натоўпы ў рэстаранах. А то, бач ты, немагчыма спадару Тозіку туды трапіць...

...Калі будынак «пераможнага сацыялізму» хістаўся, я зведаў адну з тых, хто ўжо тады хаваў свае даходы ў цяні — цётку Маню з Гарадзішча, што пад Мінскам, непадалёк ад аднайменных урадавых дач. Ці не адна з той вёскі яна трымала карову. Але патрапіць да яе, каб прыдбаць, па-расейску гаворачы, крынку малака, было вельмі цяжка, бо яна размяркоўвала пакупнікоў па адным крытэрыі: доступ да кілбаснага дэфіцыту. Пры гэтым вызначала іх статус адзіным выразам — «міністэрская дрэнь».

Сёння той «крынкавы сацыялізм» нібыта змяніўся на «рынкавы», але сутнасць тая ж: не людзі, якія шукаюць тыя ці іншыя спосабы выжыць, паразітуюць на дзяржаве, а дзяржава ў выглядзе ўсё той жа «міністэрскай дрэні» паразітуе на людзях — не вяртае пазыкі, не даплочвае пенсіі ды заробкі, кідае ў прорву інфляцыі і прывабліває пернікам «светлай сацыялістычнай будучыні» памерам у 500 даляраў...

Наўрад ці дастаецца да гэтай будучыні вялізная, на ўсю краіну, чарга за «крынкай» трошкі таннейшага малака...

*kamerton_41@mail.ru*

# Беларускамоўныя стыкеры фанатаў — новы трэнд

Фанацкае асяроддзе працягвае беларусізавацца. Сёлета мы ўжо знаёмілі чытачоў з беларускамоўнымі банерамі. Цяпер на чарзе — стыкеры (налепкі).

Фактычна, такім чынам фанаты пазначаюць сваю прысутнасць у горадзе. Стыкер — гэта той жа міні-банер, які нясе інфармацыю не толькі пра любімы клуб, а і іншыя каляфутбольныя падзеі.

Апошняя партыя стыкераў БАТЭ абсалютна беларускамоўная. Прычым, некаторыя выкананыя на беларускай лацінцы. Тут, вядома, пра сам ФК, але выказваюць фанаты сваё стаўленне да Беларускай федэрацыі футбола, піратэхнікі.

Ёсць налепкі з выявамі Кастуся Каліноўскага і Станіслава Булак-Балаховіча, гістарычных персанажаў, якіх шануюць «хуліганы». Польская тэма — гэта даўняе сяброўства БАТЭ з «Пястам» з Глівіцэ.

Ёсць Кастусь Каліноўскі і на стыкерах мінскага «Тарпеда». На налепцы напісана «Айчына! Нацыя! Тарпеда!» Таксама ёсць такія, што паведамляюць «Футбол для фанатаў, а не для мусароў».

Вельмі прыгожыя стыкеры ў «Гомеля». Робяць іх за мяжой. У Беларусі і даражэй, і паліграфія горшая. «Адна Радзіма, адзін горад, адна каманда», — напісана на налепцы.

«Дняпро будзе першым», — паведамляюць магілёўскія стыкеры. Хаця побач жа ёсць такія, як «днепряне», блізкі па афармленні да «славяне».

Вядома, ёсць беларускамоўныя стыкеры ў адвечных супернікаў «Дынама» і «Партызана». «Ад бацькі да сына. Адна каманда, адна Радзіма», — вельмі прыгожы стыкер «Дынама».

Меншыя клубы, гледзячы на вышэйшую лігу, таксама цягнуцца ў тым жа кірунку. «Зялёна-белыя сыны магутнай краіны», — гэта налепка фанатаў «Маладзечна».

У Брэсце, Віцебску, Гродне, Слуцку, Жлобіне, Лідзе, Слоніме, Баранавічах таксама на стыкерах ёсць беларуская мова.

Калі белмовы няма, то нярэдка бывае Пагоня, як у «Белшыны».

**Зміцер Панкавец**




На стыкерах БАТЭ — Каліноўскі і Булак-Балаховіч.




Магілёўцы робяць налепкі не толькі белмоўныя, але і ў стылі «славяне».




Меншыя клубы падцягваюцца за большымі.




У фанаў «Маладзечна» прыгожыя і якасныя стыкеры.




Большасць стыкераў робіцца за мяжой.



Пагоню шануюць большасць «хуліганаў».



Стыкеры «Дынама» нагадваюць аб вернасці клубу.



На тарпедаўскіх налепках не толькі Каліноўскі, але і Фрэдзі Кругер.

# На МКАД збілі вядомага джыпера Сцяпана Трубачова

**Спыніўся, каб выцягнуць чужое аўто з кювета, і загінуў.**

Пасля страты мужа і бацькі сям'і цяпер патрабуецца дапамога.

40-гадовы мужчына спыніўся і выйшаў з машыны, каб дапамагчы дастаць з кювета аўтамабіль, што вылецеў з трасы. Калі ён пачаў размотваць буксіровачны трос, яго збіла іншае аўто. Гэта здарылася 16 снежня а палове на восьмую вечара.

Сцяпана збіла жанчына на Ford Focus, якая ехала па вонкавым колцы МКАД у кірунку ад Зацані да развязкі з праспектам Пераможцаў. На галалёдным участку яе вынесла за межы праезнай часткі і кінула на джыпера. Ён атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму цяжкай ступені, закрыты пералом левай галёнкі, адкрыты пералом правай галёнкі. У стане траўматычнага шоку і комы быў шпіталізаваны. У 23.05 ён памёр у бальніцы.

Інтэрнэт-карыстальнікі ведалі Сцяпана Трубачова яшчэ пад нікам Beerfan. Гэта адзін з арганізатараў у Беларусі спаборніцтваў па джып-трыяле. Акурат у гэты вечар ён вяртаўся дадому з такіх спаборніцтваў у Барысаве. Ехаў на джыпе і меркаваў, што для яго не будзе праблемай дапамагчы аўтамабілю ў кювеце.

Знаёмы па таварыстве джыпераў расказаў, што ў Сцяпана быў свой джып «Судзукі Самурай». Але ў той вечар з Барысава ягонае аўто буксіравалі на жорсткай счэпцы на «Таёце». Адбуксіраваўшы аўто да бацькоў у пасёлак Зацань, джыпер на «Таёце» вяртаўся ў Мінск.

Па словах знаёмага, Сцяпан Трубачоў заўсёды спыняўся, калі бачыў, што на дарозе камусьці патрэбная дапамога.

Відавочцы сітуацыі адзначаюць, што машыну ў гэтым месцы заносіла, бо там на дарозе ўтварыўся галалёд. На тым месцы ў выніку здарылася некалькі аварый: чатыры аўто пацярпелі, сярод іх і міліцэйскае.

Кіроўца, які загінуў, трынаццаць гадоў працаваў у кампаніі IBA начальнікам аддзела сістэмных праектаў Тэхнічнага дэпартамента. Ён адзін працаваў у сям'і. Па словах джыпера Івана, не ўсе ведаюць, што сын загінулага моцна хварэў. Таму маці не працавала: даглядала яго. І цяпер сям'я засталася без крыніцы даходаў. Сябры шукаюць для жанчыны працу ў хаце, бо пакінуць сына аднаго нават для выхаду ў краму яна не можа. Каб неяк вырашыць пытанне на першы час, жанчына вырашыла прадаць мужаў джып.

У дачыненні да кіроўцы Ford распачата крымінальная справа за «Парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека».

Сяргей Макарэвіч




**Джып-трыял**

аўтамабільнае спаборніцтва, якое адбываецца на закрытай са штучнымі і/альбо натуральнымі перашкодамі трасе, размешчанай на перасечанай мясцовасці і падзеленай на заліковыя секцыі.

**Сцяпан стараўся заўсёды дапамагаць кіроўцам.**

## Медыкі спрачаюцца, ці быў ненармальным забойца амерыканскіх школьнікаў

**Расстраляў два дзясяткі чалавек і застрэліўся сам.**

Медыкі сцвярджаюць, што прычынай такога ўчынку не магло быць расстройства асобы, на якое пакутаваў Адам Ланца. Але іншага тлумачэння пакуль не даюць. Адназначнага меркавання так і няма, ці быў ён псіхічна ненармальным.

Сціплы, увесь у сабе, не глядзеў людзям у вочы. Ён хварэў на сіндром Аспергера — парушэнне асобы, блізкае да аўтызму. Хаця гэта не замінала ў яго разумовым развіцці: вучыўся выдатна, але быў замкнутай асобай.

Дваццацігадовы Ланца падазраецца ў забойстве школьнікаў і настаўнікаў пачатковай школы ў горадзе Ньютаўн (штат Канектыкут, усход ЗША). 14 снежня там былі расстраляныя 26 чалавек, у тым ліку 20 дзяцей у веку ад пяці да дзесяці гадоў. У момант стральбы ў школе знаходзілася не менш як 600 вучняў.

Мяркуецца, што масакру Ланца учыніў, пасварыўшыся з маці. Спачатку забіў яе, а затым са зброяй з хатняй калекцыі накіраваўся ў школу. На месцы злачынства паліцыянты знайшлі пісталет аўстрыйскай фірмы Glock, пісталет SIG-Sauer і вінтоўку Bushmaster. У машыне ляжала яшчэ і стрэльба. У школе знайшлі і цела самога Ланца. Мяркуецца, што ён застрэліўся.

Маці Адама чатыры гады таму развялася з бацькам. Сама яна была апантанай збіральніцай зброі. У хаце ў іх была першакласная калекцыя. Яна часта практыкавалася на стрэльбішчы разам з сынам.

У большасці штатаў ЗША грамадзяне маюць права насіць зброю. Гэта даўняя вольнасць, з часоў заваёвы незалежнасці. На жаль, у цяперашніх умовах гэта прыводзіць да частай страляніны ў публічных месцах. Па колькасці забойстваў на душу насельніцтва Штаты застаюцца сярод найгоршых у свеце.

АГ

**Фотафакт**



Жанчыну на фота шукаюць па падазрэнні ў забойстве сваіх дзяцей: гадавалага хлопчыка і трохгадовай дзяўчынкі. Гэта Наталля Кірсанава, 1989 г. н. Ураджэнка Маларыты.

Прыкметы: на выгляд 23—25 гадоў, хударлявая, рост 160 см, валасы русыя да плячэй.

Была апранутая: куртка-пухавік да каленяў шэрага колеру з капюшонам і каўнерам з мехам пясца; шапка вязаная шэрага колеру, спераду на шапцы ўзор у выглядзе кветкі; кароткія боты без абцасаў, спадніца.

Тых, хто ведае месцазнаходжанне жанчыны, просяць патэлефанаваць ва УУС Мінаблвыканкама на нумары: (017) 229-04-03, 229-05-90 альбо 102.

## Высокапастаўленага банкіра затрымалі за педафілію

**Паспяховы на працы, але прыватнае жыццё не заладзілася.**

Абвінавачаны да свайго затрымання займаў пасаду начальніка аддзела бізнэс-працэсаў у адным буйным банку, а да гэтага паспеў шмат гадоў папрацаваць у двух іншых банках, якія ўваходзяць у пяцёрку найбуйнейшых фінансавых устаноў краіны.

На працы да мужчыны не было ніякіх прэтэнзій. Наадварот, ён лічыўся адным з самых перспектыўных менеджараў і за свае 29 гадоў здолеў зарабіць у банкаўскім асяроддзі добрую рэпутацыю.

Педафіла-банкіра выявілі пасля таго, як выпадковы мінак заспеў яго на месцы злачынства. Паводле звестак следства, супрацоўнік банка ў жніўні 2012 пазнаёміўся на вуліцы з дзвюма дзяўчынкамі. Ён пачаў іх сустракаць кожны дзень, частаваць цукеркамі і іншымі прысмакамі, даваў ім грошы на кішэнныя выдаткі. Увайшоўшы, такім чынам, у давер да дзяўчатак, банкір прываблў іх у лес у раёне мінскай Сцяпянкі і пачаў здзяйсняць з імі распусныя дзеянні. У першы раз усё прайшло для педафіла вельмі ўдала. Праз некалькі дзён ён паўтарыў. На трэці раз ён прыхапіў з сабой фотакамеру: меркаваў усё запісаць на відэа, каб пасля выкласці ў інтэрнэт. Але на бяду банкіра, тое, што адбываецца, заўважыў выпадковы чалавек, што ішоў праз лес, і паспрабаваў затрымаць гвалтаўніка.

Педафіл кінуўся бегчы і здолеў схавацца ад праследу, але ўпусціў свой фотаапарат, на якім былі здымкі фрагментаў інтэр'ера. Па гэтых здымках банкаўскага работніка і вылічылі.

Паводле ej.by

### Сцісла

**Выйшаў па амністыі і пакалечыў людзей**

У Століне п'яны кіроўца наехаў на мужчыну з жанчынай. Выскачыўшы на сустрэчку на «Жыгулях», ён прыціснуў пешаходаў на пераходзе да сустрэчнага аўто. Яны шпіталізаваныя з пераломамі. Аказалася, што летам кіроўца насмерць збіў равырыста. Яго асудзілі, але з турмы выпусцілі па амністыі.

**Пажар пашкодзіў манастыр**

15 снежня загарэўся адзін з карпусоў мужчынскага манастыра ў вёсцы Малыя Ляды Смалявіцкага раёна. Агонь пашкодзіў 800 кв.м даху, перакрыцці. Ніхто не пацярпеў. Манахі эвакуіраваліся самастойна, прыхаджане дапамаглі выратаваць ад агню царкоўныя рэчы. Прычына пажару высвятляецца.

**Мяса па заніжаных цэнах**

Фінансавая міліцыя затрымала фермераў, якія прадавалі мяса ў Расію па заніжаных цэнах. Два фермеры з Лідчыны і адзін мінчук вывозілі свініну па цэнах, ніжэйшых, чым на унутраным рынку. Пры гэтым выкарыстоўваліся бухгалтарскія дакументы падстаўных кампаній і не сплачваліся падаткі. Вінаватыцаў іх у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

**Закапала дзіця ў снезе**

19-гадовая маці ў Светлагорску закапала ў снезе сваё паўтарамесячнае дзіця. Яно цудам выжыла. З акна кватэры тое заўважыла жанчына. Яна выбегла і забрала немаўля. Затым выклікала міліцыю. Дзіця знаходзіцца ў бальніцы. А яго маці затрымалі праз дзень. Сваю віну яна не адмаўляе і тлумачыць такі ўчынак «пасляродавай дэпрэсіяй».

КМ

# Прыгожы футарал на старажытных мурах

Пра вынікі рэстаўрацыі замка ў Медніках піша **Алег Дзярновіч**.

Меднікі і Крэва — замкі-блізняты, сведчанне таго, што супольную гісторыка-культурную прастору няпроста разарваць нават і палітычнымі межамі. Медніцкі замак — усяго за 45 кіламетраў ад Крэўскага і за два кіламетры ад сучаснай літоўска-беларускай мяжы. Паводле мясцовага падання, запісанага яшчэ Уладзіславам Сыракомлем, замкі будавалі браты-волаты, якія кідалі адзін аднаму інструмент і каменне. Замкі належаць да аднаго тыпу — кастэль — і шмат у чым сімвалічна звязаныя. Усходняя вежа Медніцкага замка нават называлася Крэўскай.

Медніцкі замак — адзін з першых мураваных у Вялікім Княстве. Узведзены ў першай палове XIV ст. з дапамогай ганзейскіх майстроў, атачаны валамі і сямiметровым ровам, ён уражваў сценамі 15-метровай вышыні і двухметровай таўшчыні, 30-метровай галоўнай вежай-данжонам. У мурах, на вышыні 11 метраў, знаходзілася баявая галерэя з 280 байніц. Унутраная плошча замка складала 1,85 га, з валамі і ровам — 6,5 га. Такога ў Літве яшчэ не бачылі.

Данжон меў пяць ярусаў, з якіх тры верхнія былі жылыя. Тры меншыя вежы баранілі ўваходы ў замак з захаду, усходу і поўдня. Такая колькасць брамаў зніжала абарончыя якасці замка, але дазваляла вакольнаму насельніцтву хутчэй хавацца за мурамі падчас варожых нападаў.

Меднікі (літ. Medininkai), як і Крэва, належалі вялікаму князю Альгерду. Тут любіла бываць яго жонка Уляна. Блізкасць да сталіцы перадвызначыла як зручнасць Меднікаў, так і стварыла дадатковыя праблемы: сюды даходзілі крыжакі. У 1385 вялікі магістр Конрад фон Ратэнштайн дэманстратыўна зладзіў пад мурамі рыцарскі турнір. У 1402 нямецкіх саюзнікаў навёў на Меднікі Свідрыгайла. Пасля Грунвальда, страціўшы баявое значэнне, замак занепадаў. Як і Крэва, Меднікі пацярпелі падчас Першай сусветнай — немцы разабралі частку заходняга муру, будуючы дарогу.


Рэстаўратары пакінулі ў Медніках выразную мяжу паміж аўтэнтычнымі і аднаўленымі мурамі.

### Выразная мяжа старога і новага

Замак даследавалі ад 1950-х і закансервавалі ў 1960-я. Рэканструкцыя ішла з пачатку 1990-х, але новы імпульс ёй надаў нядаўні грант Еўрасаюза ў памеры 3 млн еўра. Што ж пакуль удалося зрабіць за гэтую немалую суму?

Аднаўлены не ўвесь замак. Рэканструяваная толькі вежа-данжон і сцены абапал. Іншыя муры проста пакрытыя дахоўкай.


Ягайлу і не снілася: шкляны ліфт і бетонныя бэлькі ў вежы Медніцкага замка.

Медніцкі замак захаваўся нешмат лепш за Крэўскі. Але ўсё ж адзін з кутоў яе вежы сягаў у ХХ ст. пятага яруса. (Муры крэўскай Княскай вежы пасля абстрэлаў расійскай артылерыі ў Першую сусветную абсыпаліся да трэцяга.) Літоўскія рэстаўратары дзейнічалі прафесійна і тактоўна да аўтэнтыкі — яны пакінулі выразную мяжу паміж старажытнымі канструкцыямі і аднаўленай муроўкай.

Гэты кантраст захаваны і ўсярэдзіне вежы: аднаўленыя сцены патынкавалі. У нашых ранніх гатычных будынках сцены не тынкавалі ўвогуле, тынкоўка і роспіс наносілася толькі на скляпенні.

### Пытанне лесвіц і перакрыццяў

Як можна было перамяшчацца з яруса на ярус? Аказваецца, скляпенні для лесвіц не прабівалі. Тунэль для лесвіцы рабіўся ў тоўшчы сцяны і серпанцінам апаясваў вежу. У Крэўскім замку захаваліся фрагменты такога тунэля. Як гэта працуе ў нашых данжонах, я нарэшце пабачыў у Медніках. У такім праходзе можа перамяшчацца толькі адзін чалавек. Цяпер зразумела, чаму вязніца князя Кейстута, калі верыць нашым хронікам, магла быць у цокальным паверсе Княскай вежы Крэўскага замка. У вежу можна было трапіць толькі з баявой галерэі на ўзроўні трэцяга яруса (унізе ўваходу не было). На цокальны ярус можна было спусціцца толькі па вузкім тунэлі. Дастаткова было аднаго ахоўніка, каб вязень не змог праслізнуць.

### Ці ўдасца схавацца ад сучаснасці?

У рэканструкцыі Медніцкага замка ёсць удалыя рашэнні. Але чым больш там ходзіш, тым больш застаецца пытанняў. Напрыклад, прыступкі ў тунэлі і перакрыцці паміж ярусамі зробленыя з бетону (раней на некаторых ярусах былі драўляныя). Праўда, гэта і не маскіруецца.

Бетонныя перакрыцці рабіліся з меркаваннаў пажарнай бяспекі, як і металічныя драбіны, што спускаюцца з аднаўленых баявых галерэяў.

Але сапраўдны шок у аматараў аўтэнтыкі выклікае шкляны ліфт, які праціначае гатычную вежу ад ніжняга да верхняга яруса. Свая логіка ў гэтым ёсць: калі грошы выдаткоўваў Брусэль, дык мусяць выконвацца і еўрастандарты — аднаўлены замак павінен быць даступны інвалідам.

Як бачым, нават пры такой дарагой рэстаўрацыі ад сучаснасці не ўдаецца схавацца. Тут праблема, хутчэй, метадалагічная і этычная — што можа дазволіць сабе архітэктар-рэстаўратар, каб выканаць актуальныя інжынерна-канструктарскія патрабаванні, але нанесці найменшую шкоду помніку?

### Спрэчныя фрэскі

У прэсе пісалі пра выяўленыя ў Княскай вежы Крэўскага замка фрагменты сценапісу. Кавалкі распісанай тынкоўкі знаходзілі і ў Медніках. І па каларыстыцы, і па тэхналогіі яны ідэнтычныя раннім крэўскім: гэта нанесены чырвонай вохрай на светлы фон арнамент з перакрыжаваных ліній і палос. Лагічна — у Альгердавых, а потым Ягайлавых, рэзідэнцыях у Крэве і Медніках магла працаваць адна і тая ж арцель майстроў.

Аднак літоўскія рэстаўратары аздобілі скляпенні Меднікаў адвольнымі фрэскамі: рэнесанснымі з раслінным арнаментам, гатычнымі фрэскамі з выявамі фантастычных жывёл.

### Наперадзе — Крэва

Знаёмства з вынікамі рэканструкцыі Медніцкага замка для нас важнае яшчэ і таму, што наперадзе — аднаўленне Крэва. І грошай на яго ў разы меней. Што можна скарыстаць з медніцкага досведу? Ці ўдасца нашым архітэктарам утрымацца на тонкай мяжы мадэрнізму і аўтэнтыкі?

Літоўскія рэстаўратары арыентаваліся ў большай ступені на дэкаратыўнасць, чым на аўтэнтыку. Трэба аддаць ім належнае: парэшткі старога замка, нібыта дыямент, набылі сучасную агранку. Сімпатыю выклікае выкарыстанне сучасных цэглы і дахоўкі, зробленых па старажытных узорах. Але і бетон кідаецца ў вочы. Фактычна, літоўскія рэстаўратары пасадзілі прыгожы футарал на старажытныя муры.

Беларускія рэстаўратары плануюць ісці ў Крэве процілеглым шляхам: максімальна дакладна захаваць архітэктурна-вобразныя рашэнні даўніх дойлідаў, фактычна, адбудоўваць Княскую вежу такой, якой яе бачыў Кейстут. Будзем спадзявацца, што мэты нашых архітэктараў удасца рэалізаваць.


Пяты ярус вежы. Новая муроўка затынкаваная, каб падкрэсліць прыгажосць старой.


Лесвіца ў тоўшчы вежы — з кропкавай падсветкай...


...Такую ж лесвіцу мы адкапалі ў Крэўскім замку.


Так выглядаў замак 150 гадоў таму. Вінцэнт Дмахоўскі. Руіны замка ў Медніках (1853).

# Свет — аўтамат, а людзі ў ім — капейкі

Уладзімір Някляеў напісаў раман «Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без».


АЛЯКСАНДР ЖДАНОВІЧ ДЛЯ BUDZMA.ORG

Непаўналетні герой прыязджае з правінцыі ў сталічны Мінск часоў хрушчоўскай адлігі. Ён вучыцца ў радыётэхнічным тэхнікуме, зьбліжаецца з дысідэнтамі — дакладней, звычайнымі стылягамі, якіх саветы трактавалі як ворагаў сістэмы, — закохваецца, сутыкаецца са злом. Зло ўвасоблена ў КДБ.

Гэта раман пра сталенне чалавека (і пакалення), фармаванне яго (і пакалення) ідэалаў.

Таксама гэта раман пра загадкі маладосці, разгадка якіх знаходзіцца праз 50 гадоў. Жанр рамана размыты. Тут ёсць элементы меладрамы, рамана выхавання, дэтэктыва.

Твор захаплялььна чытаецца, зацягвае, хоць у ім няма адзінага сюжэтнага стрыжня: некалькі гісторый, аб’яднаных супольнымі героямі ці месцам дзеяння. Ад гэтага пытанне, дзе кульмінацыя, ускладняецца: ці то эпізод, калі героі сутыкаюцца нос у нос з Хрушчовым і КДБ вінавацiць іх у замаху на кіраўніка СССР. Ці то момант, калі галоўны герой спрабуе ўтапіцца ў палонцы ў Свіслачы — з роспачы, што выпадкова «здаў» на допыце сяброўку. Ці то фінал, калі матывы ўчынкаў і прычыны смерцяў 50-гадовай даўніны выяўляюцца зусім іншымі. А мо кульмінацыя — забойства Кенэдзі?

Раман аўтабіяграфічны: татарка Нэла, першае мінскае каханне героя, мела рэальны прататып, як і многія іншыя персанажы. А вось Ася і маёр КДБ Гагарын — выдуманыя.

Пакаленне мінскіх стыляг-шасцідзясятнікаў слухала Акуджаву і Дзіна Рыда і задумлялася над ваеннымі злачынствамі маршала Жукава. Іх мясцовым гуру быў Кім Хадзееў — рэальны філосаф-дысідэнт, якога адны называлі геніем, іншыя — правакатарам спецслужбаў.

Гэта раман пра тое, як гартаваўся стыль. Някляеў апісвае жыццё стыляг: джаз, радыёгульні, амаль свабоднае каханне. Іх шпацыр па мінскім «Брадвеі» — нібы гімн свабодзе. Стылягі, праўда, асцярожнічаюць, зважаюць на міліцыю. Стыль стыляг і стыль пакалення Някляева.

Поруч з прыдуманымі ў творы дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы: Лі Харві Освальд і Мікіта Хрушчоў, Уладзімір Караткевіч (з вачыма рознага колеру) і Кім (Хадзееў), Андрэй Міронаў і Барыс Луцэнка. Кожны мае свой раманны лёс, толькі Караткевіч з’яўляецца як «камеа». Філосаф-антысаветчык з «вучнямі» хаваецца ад ціхароў у будынак Саюза пісьменнікаў і, кажучы сучаснай мовай, «троліць» там літкансультантаў: пытае ў іх, які любімы верш Хрушчова. Раптоўна з’яўляецца Караткевіч і цытуе на памяць дзікі па безгустоўнасці прэтэнцыёзны вершык.

Рэальныя гістарычныя падзеі — прыезд Хрушчова ў Мінск, справа «антысавецкай групоўкі» Кіма Хадзеева, факт жыцця на плошчы Перамогі амерыканца Лі Харві Освальда — перамяжоўваюцца з фантастыкай, кшталту наяўнасці ў Мінску Саламона Маісеевіча Бланка, сваяка Леніна.

Гэта раман пра Мінск як такі. Мінская тапаграфія ў рамане трохслойная — кожную вуліцу аўтар мянуе трыма назвамі: сучаснай, каланіяльнай і даўняй. Саламон Майсеевіч сядзіць са сваім ліманадам на Нямізе, бо «ўсе ведаюць, што на Нямізе — гэта на Нямізе. А калі дзе-небудзь на Кастрычніцкай ці на Гастэла, дык кожны другі перапытае: гэта дзе? На Лекерта?»

На месцы яткі Майсеевіча пасля ставяць аўтамат для газвады, у які трэба біць, калі хочаш атрымаць порцыю вады задарма. Калі ўдарыць асабліва ўдала — вада будзе з сіропам. А сам Саламон Майсеевіч памрэ ў КДБ, каб расчысціць следчаму Гурыку шлях да сваёй дачкі Асі.

## Для Някляева свет — гэта змаганне за жанчын, а ўсё астатняе — толькі пабочны вынік

Каханне, змаганне за жанчын круціць свет, а ўсё астатняе — толькі пабочны вынік гэтага. Вось адна з галоўных думак рамана: «Біцца заўсёды ёсць за што і ёсць каму ў любым месцы». У «Аўтамаце» найлепшыя дзяўчаты павыходзілі за кадэбістаў: так Някляеў бачыць свет і яго законы.

Прага ўлады ўсяго толькі вытворная ад прагі валодаць жанчынай, законы вялікай палітыкі аўтар бачыць у гратэскавым святле. У дурдоме ў Навінках хворыя і здаровыя людзі лёгка інсцэнуюць пасяджэнне Палітбюро ЦК... Магчыма, якраз гэта лёгкае, стыляжнае аўтарскае стаўленне да «палітыкі» адыграла сваю ролю ў рэальных падзеях 2010-га, калі Някляеў быў кандыдатам у прэзідэнты?

Дарэчы, аўтар увесь час пераносіцца з хрушчоўскай адлігі 1960-га ў лукашэнкаўскую замарозку 2010-га...

Някляеў пачынаў пісаць раман у 2008-м, працягваў у верасні 2009 і скончыў у сакавіку-чэрвені 2011 — паргом 19 снежня і турма КДБ расставілі апошнія кропкі на лініях, праведзеных з 1960-х. І сцэна, калі галоўнага героя ўжо дапытваюць голым як кандыдата ў прэзідэнты, адна з моцных.

Папярэдні раман Някляева, «Лабух», выдадзены ў 2003-м, быў па-мілераўску гіперэратычным і брудным, у ім нібы адлюстраваўся досвед супрацы аўтара з маладой лукашэнкаўскай уладай. У «Аўтамаце...» Лукашэнкі няма зусім. Але лінія КДБ — адна з цэнтральных.

Гурык — ужо генерал Гурковіч, які прыехаў з Масквы прыглядаць ужо за прэзідэнцкімі выбарамі 2010-га — кажа: «Сваіх у мяне няма» і «нікога не шкадуй», бо «шкадавальнікі — брук, па якім ідуць».

Постмадэрнізм: раман мае ёмісты дадатак. Тут і прамова Хрушчова на ХХ з’ездзе, і стэнаграма яго сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй, і трактат Кіма Хадзеева, і чатырохрадкоўе «з народнага», і пасляслоўе аднаго з прататыпаў, Віктара Ле-дзенева...

Няма ў творы — калі ўспрымаць раман як аўтабіяграфічны — толькі адказу на пытанне, што творцу да палітыкі, навошта стыляга-паэт стаў кандыдатам у прэзідэнты. Зрэшты, такім адказам можна цяпер лічыць сам раман, які ў іншым выпадку быў бы інакшы.

**Сяргей Мікулевіч**

Раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без» можна будзе прачытаць у снежаньскім нумары часопіса «Дзеяслоў». Ён выйдзе таксама асобнай кнігай.

# Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без

**Уладзімір Някляеў.** Урывак з рамана.

...Вечарамі на прыступках Тэатра юнага гледача спяваліся песні і чыталіся вершы. Ас у шынялі з пагонамі генерал-маёра авіяцыі стаяў сярод бардаў і паэтаў, Гурык у цывільным — насупраць. Апроч Гурыка, сноўдалі сярод вольных менчукоў яшчэ з дзясятак ягоных калег. Яны ўчэпіста ўзіраліся і ў тых, хто чытаў і спяваў, даганяючы Рым па вечнасці, і ў тых, хто слухаў, не даганяючы.

«Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!
Ці не такі быў лёс ваш у фінале:
Як нехта моцна спаў, вас распіналі,
Вы ціха на крыжы свáім канáлі,
І білася жанчына каля ног!»

— ускідваў руку ў фінальным жэсце цыбаты, прыхарошаны ў мадняцкую вадалазку і шыракаплечы пінжак, паэт, і незразумела як і з чаго ад гэтых радкоў пра паўсталага рымскага раба павявала з-за псеўдаантычных калонаў тэатра скразняком крамолы... А ўжо ад верша не пра раба, а пра маршала — і не пра рымскага — цягнула сіберам.

«Як вам днём жывецца, маршал?
Спіцца ўночы?
Вам не сняцца твары нашы?
Нашы вочы?
Вам не мрояцца хімеры: нашы цені,
Што фанерай
над Берлінам праляцелі?..»
На Чырвонай плошчы заклікі
ды маршы,
І на маршальскай кабыле
скача маршал!
Медзі музыка лятая поўніць плошчу!..
«Маршал, — мама запытае, —
дзе мой хлопчык?..»
«Слава паўшым!..» —
стане плошча на калені.
І парадным строем пройдуць
нашы цені.
Трыста тысячаў разоў,
таварыш маршал,
Вы манілі зноў і зноў матулям нашым!..

— сціскаючы ўскінутыя ўгору кулачкі, крычаў так, што рэха тузалася ў калонах, пасляваеннага вырабу хлапчук, і ніхто не мог зразумець, чаму маніў маршал менавіта трыста тысячаў разоў?..

— Час прабіў! — ускінуў, паўтараючы жэст хлапчука, кулакі ўгору Ас, як толькі хлапчук дачытаў верш пра маршала. — Ваш час, Палкоўнік!

Палкоўнік падняўся і стаў побач з Асам.

Вершы Палкоўнік не чытаў і песні не спяваў, але на прыступкі Тэатра юнага гледача, каб нешта сказаць, падымаўся. І калі ён падымаўся, каб нешта сказаць, дык тое, што ён казаў, больш за вершы з песнямі напружвала і вольных менчукоў, і Гурыка з дзясяткам ягоных калег у цывільным.

— Трыста тысяч!.. Вас тут і трохсот не набярэцца, а там — трыста тысяч! Трыста тысяч салдацікаў паклаў маршал Жукаў па загадзе генералісімуса Сталіна пры штурме Берліна вясной сорак пятага года! Трыццаць тысяч іх палягло ў адзін дзень на Зеелаўскіх вышынях! Штурм нічога не вырашаў, Берлін быў абкружаны! Дык дзеля чаго кінулі на смерць столькі людзей? Якія маглі вярнуцца з вайны, будаваць дамы, гадаваць дзяцей! Толькі дзеля таго, каб не амерыканскія, а савецкія войскі першымі ўвайшлі ў Берлін! Толькі дзеля задавальнення сталінскай фанабэрыі! А хто палёг на Зеелаўскіх вышынях? Мінскія хлопчыкі, мабілізаваныя на фронт пад самы канец вайны! Таму Мінск — вечны горад загубленых геніяў!..

Калі Палкоўнік спусціўся з прыступак, да яго падышоў Гурык і адвёў убок... Нешта сказаў яму, а Палкоўнік павярнуўся да ўсіх і крыкнуў:

— Ведаеце, што ён мне сказаў?.. Што маршала Жукава можна не любіць, але не ў нас, а ў Маскве! А ў нас загад любіць яго ніхто не адмяняў! Дык мне ў Маскву ехаць?..

— Не! — ускрычалі ў адзін голас вольныя менчукі, а Гурык узяў Палкоўніка пад локаць:

— Пройдзем!

Прайсці з Палкоўнікам старшаму лейтэнанту Гурковічу не ўдалося, бо з прыступак скочыў Ас, адпіхнуў Гурыка і пацягнуў Палкоўніка ў гушчар вольных менчукоў, якія пляскалі абодвум вар'ятам...

Так, меўся ў Мінску, апроч Аса, яшчэ адзін вар'ят, як у Афінах Сакрат. Але гэты, Палкоўнік, у адрозненне ад толькі да сябе самога падобнага Аса, быў насамрэч падобны да Сакрата. Так што, калі, як казаў Косця Воран, гораду для вечнасці патрэбны ненармальныя, дык Менск на вечнасць можа разлічваць двойчы.

Менск — горад-двойчы вар'ят.

Убачыўшы, што Гурык і ягоныя калегі ў цывільным заняты Палкоўнікам, на прыступкі нерашуча падняўся чарнявы, з кудзеркамі, юнак у футболцы і картовых штанах, з-пад якіх вытыркаліся стаптаныя чаравікі з абарванымі, якіх не хапала, каб зашнураваць на ўсе дзірачкі, шнуркамі. Ён і блізка не паходзіў на Гарыка ці Косцю, гарадскіх стылягаў. Па ўсім было відаць, што хлапчына ў футболцы — вясковец, які апынуўся ў Менску, паступіўшы на філфак універсітэта ці пединстытута. Трохі заікаючыся, ён прачытаў хутка і ціха — так, што мала хто пачуў:

Рахманыя, няўпартыя,
Мы ўсе — адзін калгас.
Кіруе намі партыя
І думае за нас.
Дазвол ёсць жыць у лагеры
Сацыялізму ўсім.
Дарма буржуі звягаюць,
Мы не зайздросцім ім.
На волю нам не хочацца,
Мы рушым свет стары,
І вораг не праточыцца
У цвёрдыя муры.
Дакладна кожны ведае:
Быў камуніст — Ікар!
Для мар пра заўтра светлае
Хапае голых нар.

Як ні ціха прагучалі вершы, адзін з калегаў Гурыка ўсё ж нешта расчуў і пачаў прабірацца да прыступкаў, каб перастрэць крамольнага філфакаўца, але барды і паэты, за спінамі якіх прыадчыніліся ўваходныя дзверы тэатра, засланілі крамольніка. Ён хуценька праслізнуў у тэатр — і дзверы зачыніліся, як нічога й не было. Але ж было, было — і яшчэ невядома, ці ўдасца філфакаўцу ўцячы праз тэатр на свой філфак. Калі ж сёння ён і ўцячэ, дык заўтра нехта з аднакурснікаў на яго данясе, і будуць у філфакаўца праблемы, хай нават гэбісты, занятыя Палкоўнікам, толкам вершы ягоныя і не расчулі.

«Гісторыі кола
Заўсёды круціла крамола!
Стагналі Афіны,
Цары вар'яцелі на тронах,
Чырвонай цаглінай
Слізгала крамола па скронях!..»

— ударылі па гітарных струнах і заспявалі Гарык Клябанаў, Віл, Воран і Ас, які ўмеў не толькі лепш за ўсіх свістаць, але й на гітары граць за ўсіх не горай, а вольныя менчукі, спрабуючы зратаваць Палкоўніка, абкружылі яго і павялі ўверх па вуліцы Энгельса да Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, пад левым крылом якога ўтульненька патанаў у засені клёнаў з таполямі трохпавярховы дом, у якім 21 верасня 1943 года Герой Савецкага Саюза, былая афіцыянтка сталовай таго ж ЦК КП(Б) Алена Мазанік падклала міну пад ложак гаўляйтара Беларусі Вільгельма Кубэ...

Можа быць, праз тое, што Кубэ быў не толькі гаўляйтарам, але і літаратарам, паэтам і драматургам, былы дом ягоны стаў пасля вайны домам Саюза пісьменнікаў, а былая спальня — кабінетам літаратурных кансультантаў, куды вольныя менчукі і зацягнулі Палкоўніка. Гурык з калегамі ў цывільным пакруціліся паблізу, пра нешта пашапталіся, але забраць Палкоўніка з дома пад крылом ЦК не рашыліся.

Шкада, што пазней, ужо ў 70-х гадах, махнуў крылом беларускі партыйны ЦК — і не стала ні таго дома, ні таполяў з клёнамі. Знеслі, скарчавалі. Не так, ясна, шкада той дом, як шкада Нямігу, але ўсё ж...

У кабінеце літаратурных кансультантаў Саюза пісьменнікаў стаялі тры сталы, кансультанты сядзелі за адным з іх, сярэднім, і выпівалі. Пад крылом ЦК яны не баяліся выпіваць, не зачыняючы дзвярэй.

— Вы да каго?.. — пацікавіўся ў вольных менчукоў вялізны, з галавой дзіцяці, кансультант, і Палкоўнік адказаў, што і ён, і Анатоль Пястрак, сын вядомага беларускага пісьменніка-рэвалюцыянера Піліпа Пестрака, і ўсе вольныя менчукі... Віл, Воран, Гарачы, грамадзянка Бланк і вось гэты... — ён не ведаў, як мяне зваць, і ніяк не назваў... — прыйшлі да кансультантаў, бо на дзвярах кабінета з таго боку напісана, што тут кансультанты сядзяць.

— Не сядзяць, — паправіў Палкоўніка той жа «дзіцячы» кансультант. — Працуюць. — І хоць папраўка ягоная не зусім адпавядала рэальнасці, Палкоўнік не стаў спрачацца, спытаўшы:

— А хто з вас Пятрусь Броўка?

Кансультанты пераглянуліся...

— Ніхто з нас не Пятрусь Броўка, — не надта прыязна адказаў іншы кансультант, з лысінай, пузаты і круглатвары. — Пятро Усцінавіч Броўка — старшыня Саюза пісьменнікаў, а мы — кансультанты. Па прозе, паэзіі і драматургіі. — І кансультант з лысінай, пахмурна зірнуўшы на Палкоўніка, паўтарыў пытанне кансультанта з дзіцячай галавой. — Вы да каго?.. У якім жанры сябе спрабуеце?..

Падумаўшы, Палкоўнік адказаў, што ён спрабуе сябе ў жанры крытыкі, але ў былой спальні гаўляйтара Вільгельма Кубэ стаялі сталы для кансультантаў па прозе, паэзіі і драматургі, а вось па крытыцы ні кансультанта, ні стала для яго не было.

— Па крытыцы кансультанта няма... — вінавата сказаў пузаты, і Палкоўнік адчуў, што ёсць магчымасць выявіць свой акторскі талент не калісьці і дзесьці, а тут і цяпер.

— Та-а-ак... — працягнуў ён, уважліва гледзячы на пузатага. — Як старшыня партыйна-камсамольска-рэвалюцыйна-рэвізійнай камісіі па праверцы... — не дагаварыў ён, па праверцы чаго, і спытаў напорыста: — Можа быць, Саюз пісьменнікаў Беларусі не лічыць літаратурную крытыку важным жанрам, у той час як партыя вызначае яе ролю ў развіцці савецкай літаратуры як вядучую?.. Можа быць, — перакінуўся старшыня немаведама якой партыйна-камсамольска-рэвалюцыйна-рэвізійнай камісіі з пузатага кансультанта, які раптам спаў з твару, на кансультанта з дзіцячай галавой, — кансультанты Саюза пісьменнікаў Беларусі не чыталі прамову першага сакратара ЦК КПСС таварыша Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на трэцім з'ездзе савецкіх пісьменнікаў?.. Чыталі?.. — тузануў Палкоўнік за пляча яшчэ аднаго кансультанта, худога мужыка ў паласатай безрукаўцы са споўзлымі на нос акулярамі, які, роўненька седзячы, драмаў за сталом і, тым не менш, нават не разумеючы, чаго яго тузаюць, прачамкаў: «Чыталі... мы чыталі...» — а Палкоўнік штурхнуў худога ў другое пляча так, што ў таго акуляры зляцелі, і ва ўсіх запытаў з жалезам у голасе: «Як называецца прамова, калі вы яе чыталі?»

## Ад гэбістаў, можа, сёння мы і адарваліся, але міліцыі не прамінем

Кансультанты яшчэ не выпілі столькі, каб нічога не баяцца, таму на ўсялякі выпадак спалохаліся. Спрацавалі гены з інстынктамі ды яшчэ тое, што Палкоўнік адразу ўдарыў цяжкой артылерыяй: камісія, партыя, першы сакратар...

— Не помню... — прамямліў кансультант з дзіцячай галавой, безнадзейна гледзячы на худога кансультанта ў безрукаўцы, які, шукаючы акуляры і ўсё яшчэ не цямячы, што адбываецца, прамаўчаў, а пузаты паўтарыў: «Мы кансультанты...» — і голас ягоны ўжо быў прыязны, і позірк не пахмурны, а лісліvы.

Палкоўнік зляпіў кураж і, не паддаўшыся на ліслівасць, ускочыў на каня.

— І верш найвялікшага савецкага паэта, найблізкага сябра першага сакратара ЦК КПСС таварыша Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, пра якога таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў казаў на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў як пра прыклад, пра ўзор паэта і паэзіі, таксама не памятаеце?.. Га? — зусім разышоўшыся, схапіў Палкоўнік загрудкі пузатага. — Памятаеш ці не?.. Хто з вас кансультант па паэзіі? Ён?.. Ён? Ты?.. А, ты!.. — ледзь не парваў Палкоўнік кашулю на пузатым кансультанце па паэзіі, і я падумаў, што ад гэбістаў, можа, сёння мы і адарваліся, але міліцыі не прамінём. — Тады імя назаві! Імя паэта, найблізкага сябра таварыша Хрушчова, калі ты, кансультант, вершаў не помніш! Ну, імя?..

— Панцялей Махіня, — пачуўся раптам за маёй спінай, ад дзвярэй, у якія нехта ўвайшоў незаўважна, мякка-насмешлівы голас. Павярнуўшыся, я бліза, твар у твар убачыў дзецюка з русявымі, што хваляю спадалі на лоб, валасамі і з гэткімі ж мякка-насмешлівымі, як і голас, вачамі, якія, пры ўсёй мяккасці позірку, нечакана здзіўлялі, нават насцярожвалі тым, што былі рознакаляровыя: правае вока — шэра-зялёнае, а левае — светла-карычневае, арэхавае, якое глядзела да таго ж паўз цябе, нібы трохі косячы. І, трохі косячы на Палкоўніка, русявы дзяцюк з мякка-насмешлівым галасам прадэкламаваў:

Люблю за книгою правдивой
Огни эмоций зажигать,
Чтоб в жизни нашей суетливой
Гореть, гореть и не сгорать.
Чтоб был порыв, чтоб были силы
Сердца людские зажигать,
Бороться с тьмою до могилы,
Чтоб жизнь напрасно не проспать.
Ведь долг мой, братья, поколенью
Хоть каплю оставить честного труда,
Чтоб там, за черной загробной тенью
Не грызла б совесть никогда.

Палкоўнік не чакаў, што нехта, апроч яго і Хрушчова, можа ведаць — ды яшчэ на памяць — вершы Панцялея Махіні, таму глянуў на русявага так, як рэдка на каго глядзеў: з павагай.

— Ну, чуў?.. — адпусціў ён, нарэшце, пузатага кансультанта, якога ўсё яшчэ трымаў за кашулю. — Гарэць і не згараць!.. Каб не праспаць! А вы тут спіце п'яныя — і сумленне вас не грызе!..

— Я не п'яны... — сказаў усё, што мог сказаць, пузаты кансультант па паэзіі, а кансультант з дзіцячай галавой, які, пакуль чыталіся вершы, паспеў агледзецца і нешта западозрыць, спытаў:

— Вы з якой камісіі?.. Пакажыце пасведчанне, з якой?..

— Познa! — адрэзаў Палкоўнік. — Камісія праверку скончыла! І зрабіла высновы!

Пузаты кансультант з лысінай і худы кансультант у паласатай безрукаўцы глянулі на вялізнага кансультанта з дзіцячай галавой, не ўхваляючы яго за смеласць...

— Ды што вы перапудзіліся! — прайшоўшы да стала, за якім сядзелі запалоханыя кансультанты, паставіў перад імі пляшку гарэлкі рознаколеравокі дзяцюк. — Гэта ж Палкоўнік! Кім, Сысой!..

Па скон жыцця Кім застаўся дысідэнтам, легендай Менска, насамрэч вольным, хоць і двойчы адсядзелым, гараджанінам, якому ў кабінеце кансультантаў Саюза пісьменнікаў працягнуў руку дзяцюк з рознакаляровымі вачыма:

— Караткевіч. Уладзімір.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Поўначсталь»

**22 снежня мінскае «Дынама» ў чэмпіянаце КХЛ** прыме чарапавецкую «Поўначсталь». Матч пройдзе на «Мінск-Арэне». Пачатак а 19-й. У складзе расійскай каманды гуляюць два беларусы — Стасенка і Кавыршын.

## ІМПРЭЗЫ

### III Мінскі міжнародны калядны оперны форум

**Да 23 снежня ў Мінску** адбудзецца Трэці Мінскі міжнародны калядны оперны форум у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**20 снежня а 19-й** — «Князь Ігар»

**22 снежня а 19-й** — фінал конкурсу Competizione dell' opera

**23 снежня а 19-й** — Гала-канцэрт зорак сусветнай оперы і лаўрэатаў міжнароднага конкурсу Competizione dell' opera.

## КАНЦЭРТЫ

### Песні, казачкі ды танцы

**23 снежня а 13-й у кавярні Loft (П.Броўкі, 22)** — святочны канцэрт «Ранішнік». Бярэ ўдзел музычнавандроўны аркестрык Vuraj, а таксама «Нагуаль», Recha, Тацџяна і Адась Матафонавы. Усім дзеткам уваход — вольны.

### «Маланка Аркестр» і Vuraj

**20 снежня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — падваротна-стадыённы «Маланка Аркестр» і Vuraj.

### Калаварот

**21 снежня а 19-й у Малой зале Філармоніі** ансамбль салістаў «Класік-Авангард» прадставіць увазе публікі праграму «Калаварот». У канцэрце бярэ ўдзел постфальклорны гурт «Страла».

### Сярэднявечная дыскатэка

**22 снежня а 18-й у «Графіці»** — сярэднявечная дыскатэка з гуртом Pawa.

### Ur'ia

**23 снежня а 19-й у к/з «Мінск»** — гурт Ur'ia з праграмай «Таўкачыкі на Каляды».

### Мутнаевока

**24 снежня а 19-й у RE:Public (Прытыцкага, 62)** – канцэрт гурту «Мутнаевока».

### Сумесны live-канцэрт

**23 снежня а 19-й у кавярні Loft (П. Броўкі, 22)** — сумесны live-канцэрт Анастасіі Ціхановіч і гурту «Без панікі».

## ВЫСТАВЫ

### World Press Photo

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а) да 24 снежня** працуе выстава сусветнага конкурсу прэсавай фатаграфіі World Press Photo, якая штогод праходзіць у ста градах розных краін. У Беларусі ж найлепшыя фотаздымкі з усяго свету экспануюцца ўпершыню.

### Алтарная скульптура і мастацкія тканіны Беларусі XVII–XIX стст.

**Да 21 студзеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Алтарная скульптура і мастацкія тканіны Беларусі XVII–XIX стст.» На выставе — звыш 30 твораў культавай драўлянай скульптуры эпохі барока, а таксама ўзоры мастацкага ткацтва.

### АРТ-раўнавага

**Да 28 снежня ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе выстава «АРТ-раўнавага». «АРТ-раўнавага» — вынік творчай працы дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і выкладчыцкай каманды. Гэта сумесны пошук раўнавагі праз розныя элементы творчасці (фатаграфія, жывапіс, дызайн, лямец, кулінарыя).






### Навагодні кірмаш

**22 снежня з 11-й да 15-й у кавярні Loft (П.Броўкі, 22)** — Навагодні кірмаш. Вас чакаюць майстар-класы, выстава-продаж, экспрэс-фотасесія…



### Ёлачныя базары

**150 ёлачных базараў адкрыюцца ў Мінску 22 снежня.** Ёлачныя базары ў горадзе будуць працаваць да 31 снежня з 10.00 да 19.00. Цэны на ёлкі ў залежнасці ад памеру будуць сфарміраваныя ад 30 да 100 тысяч рублёў.

### Беларускі экватар Аляксандра Дзітлава

**Да 13 студзеня ў Гістарычным музеі** працуе фотавыстава, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння фатографа, ваеннага карэспандэнта, заслужанага журналіста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзітлава (1912 — 2009).

### Графіка Фабера дзю Фора

**Да 22 студзеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочца. Графіка Фабера дзю Фора». Мастак быў палкоўнікам напалеонаўскай «Вялікай Арміі». Выстава яго малюнкаў — унікальная магчымасць пабачыць Беларусь дафатаграфічнай эпохі.

## ТЭАТРЫ

### 20 снежня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 21 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 22 снежня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 23 снежня

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 24 снежня

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»

### 25 снежня

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»

### 26 снежня

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Віліса»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

## КІНО

### Вячэра ў завіруху

**Чорны дрозд** (Deadfall)
ЗША, 2012, каляровы, 94 хв.
**Рэжысёр:** Штэфан Рузавіцкі
**Ролі выконваюць:** Эрык Бана, Алівія Уальд, Чарлі Ганэм, Сісі Спэйсек, Крыс Крыстаферсан
**Жанр:** Крымінальная драма
**Ацэнка:** 6 (з 10)

Сястра і брат, якія абрабавалі казіно ды трапілі ў аварыю, спрабуюць паасобку дабрацца да мяжы. Сястру падвёз былы баксёр Джэк, які едзе да бацькоў на Дзень Падзякі. Дзяўчына вырашае скарыстаць небараку і сустрэцца з братам-забойцам у доме свайго выратавальніка.

Мы бачым па-майстэрску пастаўленую аўтааварыю, пасля якой пачынаецца сюжэтнае мармытанне. Выбітныя акцёры Сісі Спэйсек і Крыс Крыстаферсан радуюць сваім з'яўленнем, але не могуць разгарнуцца напоўніцу. Для крымінальнай драмы замала дынамікі.

**Андрэй Расінскі**



# Уставай на лыжы



Гарналыжныя курорты адкрыліся: **сезон у самым разгары**!

На календары яшчэ толькі сярэдзіна снежня, а беларускія лыжныя курорты ўжо адкрытыя. Для айчыннай зімы гэта дзіва — звычайна трывалы снег кладзецца на зямлю на месяц пазней.

Калі ёсць снег, то будзе і адпачынак, хоць арганізаваных месцаў у Беларусі небагата — толькі чатыры. Яшчэ адзін курорт будуецца пад Дзяржынскам. «Наша Ніва» склала табліцу з цэнамі беларускіх гарналыжных курортаў, дзе можна весела правесці выходныя.

Спіс паслугаў у іх падобны. Галоўнае — магчымасць пакатацца з горкі на лыжах і на сноўбордзе, а таксама ўзняцца ўверх. Калі катацца вы не ўмееце, трэба будзе шукаць інструктара. За гадзіну навучання яму давядзецца заплаціць 150—180 тысяч рублёў. Але з першага ўрока мала хто адразу становіцца на лыжы.

Дзе-нідзе можна знайсці і снежных квадрацыклы, і снегаходы. Каштуе такая паездка 25—30 тысяч рублёў за кіламетр.

Перад паездкай карысна запомніць назвы некаторых зімовых забавак. Табаган — гэта спуск з горкі на вазку. Можаце не ціснуць на «тормаз» — канструкцыя не дазволіць вам перакуліцца. Табаган адкрыты толькі ў «Сонечнай даліне». Адна паездка каштуе 12 тысяч рублёў для дарослых і 6 000 для дзяцей.

А вось цюбінг — гэта кола, усеўшыся ў якое, можна скаціцца са схілу. А ў «Сілічах» ёсць і пракат звычайных санак — па 35 тысяч рублёў.

**Ягор Марціновіч**

| | «Лагойск» | «Сілічы» | «Якуцкія горы» | «Сонечная даліна» |
|---|---|---|---|---|
| **Гарналыжны набор (лыжы+боты+палкі)** | дарослыя — 75 000 /105 000*<br>дзеці (да 12) — 38 000 /52 000* | дарослыя — 80 000 /120 000*<br>дзеці (да 12) — 40 000 /60 000* | дарослыя — 90 000 /110 000*<br>дзеці (да 16) — 50 000 /70 000* | дарослыя — 105 000 /150 000*<br>дзеці — 54 000 /90 000* |
| **Сноўборд+боты** | дарослыя — 75 000 /105 000* | дарослыя — 80 000 /120 000 | дарослыя — 90 000 /110 000* | дарослыя — 105 000 /180 000* |
| **Пад'ёмнік** | 90 000 /120 000* (дзецям удвая танней) | 110 000 /150 000* | 1 раз — 5 000 дарослым і 3000 дзецям | 1 раз — 10 000 /15 000 дарослым і 5 000 /8 000 дзецям |
| **Бегавыя лыжы** | 60 000 (1 гадзіна) | 60 000 (1 гадзіна) | 20 000 (1 гадзіна) | 60 000 (да 3 гадзін) |
| **Цюбінг** | 10 000 (за 1 паездку з пад'ёмам) | 40 000 (1 гадзіна) | 25 000 / 30 000 (1 гадзіна) | - |
| **Як дабрацца?** | 35 км ад Мінска па трасе М3, грамадскі транспарт ад аўтавакзала «Маскоўскі» кожныя 30 хвілін. | 32 км ад Мінска па трасе М3. | 37 км ад Мінска. Па гродзенскай трасе да павароту на Дзяржынск, адтуль да павароту на Івянец. Праз Скірмантава і Скарабагатаўшчыну да вёскі Якуты. | Мінск, Казінца, 81 (Курасоўшчына) |

*Цана ў буднія/выходныя; пракат абсталявання на тры гадзіны.

## Уладзімір Кубышкін: **У мяне пытаюцца, чаму я займаюся такой фігнёй**

**Найлепшы папсовы прадзюсар** Беларусі ганарыцца сваёй незалежнасцю ад дзяржавы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Уладзімір Кубышкін — чалавек, які адкрыў поп-выканаўцаў Аню Шаркунову і Германа, а надоечы стаў пераможцам Нацыянальнай музычнай прэміі ў намінацыі «Найлепшы прадзюсар года».

«У мяне пытаюцца, чаму я займаюся такой фігнёй, — дзяліўся перажываннямі стомлены Кубышкін, але адказу на пастаўленае пытанне не даваў. — Я скончыў медыцынскі і цяпер зайздрошчу аднакурснікам, якія, як і я, вучыліся на стаматолагаў. Некаторыя цяпер маюць уласныя клінікі і зарабляюць нашмат больш. Дый сумую я па стаматалагічных прыладах».

### Як Шаркунова канкуруе з дзяржавай

Прадзюсар падкрэсліваў, што ганарыцца сваёй незалежнасцю: «Мы ніколі не былі пад «дахамі» філармоній і канцэртных залаў. Нам закручвалі гайкі, але цяпер ніводная сволач не зможа мяне папракнуць ні ў чым». Ён скардзіўся на манаполію Міністэрства культуры ў шоу-бізнэсе. Зрабіць Шаркуновай канцэрт у райцэнтры — амаль немагчыма: там ад жніўня да красавіка ўсё «распісана». Выступаюць мясцовыя музыкі, выканкам робіць план, «але ніводны нармальны чалавек не купіць білет на гэты канцэрт». Аднак сістэму, лічыць прадзюсар, ламаць нельга, бо тады тысячы людзей застануцца без працы.

Дзе ж тады зарабіць артысту, незалежнаму ад філармоній? Выйсце Кубышкін бачыць у карпаратывах. «Не сорамна граць карпаратывы, як не сорамна граць на Днях машынабудаўнікоў ці на юбілеях», — мяркуе ён.

### Шакуцін — прадзюсар года

Не абышлі ў размове і тэму «Еўрабачання». «Хто туды паедзе — мне гэта мала цікава, — казаў Кубышкін. — Мне падаецца, што ў Аляксандра Шакуціна (уласнік «Амкадора» і спонсар Алены Ланской) не вельмі добрыя дарадцы, якія пераносяць на мастацтва метады працы на заводзе. Людзі, якія стварылі песню і нумар Ланской, пабаяліся эксперыментаваць — зрабілі ўсё з найменшай рызыкай. Алена таксама не вінаватая, яна таленавітая дзяўчына. Але метады, якія ўжываліся для яе падтрымкі, мне не падабаюцца. Між тым, яны свайго дабіліся, а пераможцаў не судзяць. Я б назваў Шакуціна прадзюсарам года».

Будучыню ж шоу-бізнэсу ён бачыць за каверамі (перапетымі песнямі іншых выканаўцаў). «Мы маленькая краіна, у Літве сітуацыя яшчэ горшая. Таму каверы — гэта наша будучыня».

### Пра Саладуху і Міхайлава

Напрыканцы Кубышкін трохі расказаў пра ўласныя музычныя густы. «Мой арганізм адрынае Стаса Міхайлава, — прарвала яго. — Як яго бачу ці чую — мне дрэнна. Аднак пасля думаю: дзе я, дзе ён. І хто з нас лох, выходзіць? Людзі яго любяць. Вось вы кпіце з Аляксандра Саладухі, а трапілі б хоць раз на яго канцэрт — там проста масавая істэрыка! Людзі ў захапленні. Насамрэч вельмі многія любяць такую музыку, прыйдуць і на Саладуху, і на Дарафееву, і на Афанасьеву, розніца ў якіх асабліва не бачыць».

Ганарар Ані Шаркуновай — $1500 за карпаратыў у пераднавагодні час. Дорага? Але ж за кожную песню давялося заплаціць тры тысячы даляраў... На развітанне Кубышкін зычыць студэнтам паважаць усіх людзей цяжкай працы, у тым ліку попартыстаў: «Спяваючых трусоў» не існуе — гэта выдумкі жоўтай прэсы».

**Юрась Ускоў**

## Расейцы распрацавалі тэлефон з двума экранамі

**Спераду — смартфон**, ззаду — электронная кніга.

Расійская кампанія Yota Devices заявіла пра завяршэнне распрацоўкі «расейскага смартфона» пад аперацыйную сістэму Android. Плануецца, што тэлефон прэзентуюць у студзені.

Галоўным адрозненнем тэлефона Yota ад тысяч іншых смартфонаў будзе наяўнасць адразу двух экранаў з дыяганаллю ў 4,3 цалі. На адной панэлі размешчаны звычайны LCD-тачскрын, а на адваротнай — экран, выкананы паводле тэхналогіі e-ink (электроннае чарніла), якія шырока выкарыстоўваюцца ў сучасных электронных кнігах. Падобныя экраны спажываюць энергію толькі ў момант абнаўлення і захоўваюць выявы як заўгодна доўга. Распрацоўшчыкі тлумачаць, што на экран e-ink у мэтах эканоміі энергіі можна будзе выводзіць смс-паведамленні, электронныя лісты, кнігі і іншыя тэксты.

Смартфоны з двума экранамі ўжо з'яўляліся ў азіяцкіх краінах, але асаблівай папулярнасцю сярод купцоў не карысталіся.

**КХ**






СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Турыстычнае агенцтва «Дром-Тур» сумесна з Мінгарвыканкамам запусціла гарадскі экскурсійны маршрут Minsk City Tour, па якім будзе хадзіць, як у Англіі, двухпавярховы аўтобус. У першы час аўтобус будзе аб'язджаць сталіцу чатыры разы ў дзень. Ля чыгуначнага вакзала ў яго можна будзе сесці ў 11.00, 13.30, 16.00 і 18.30. Да кропкі старту аўтобус вернецца праз дзве гадзіны.**



**Екацярынбургскі вулічны мастак Цімафей Радзя ў гадавіну пачатку пратэстаў расійскай апазіцыі зладзіў акцыю пад назвай «Стабільнасць». Ён пабудаваў піраміду са шчытоў АМАПа, паставіўшы на яе вяршыню трон.**



**У Гродне адбыўся парад Дзядоў Марозаў і Снягурак.**



**Паўночнакарэйскі лідар Кім Чэн Ын, курачы цыгарэту, назірае за запускам ракеты Ынха-3 («Млечны шлях-3»), якая выводзіць на арбіту спадарожнік. У той жа час чытачы часопіса Time прагаласавалі за Кім Чэн Ына як за чалавека года.**

## Анекдоты

***

А цяпер усе ўсталі і пайшлі разграбаць снег. А хто не пойдзе разграбаць, таго заграбуць па артыкуле «Ухіленне ад права на працу».

***

У сувязі з амністыяй у дзіцячым садку вызвалілася 11 куткоў.

***

— Мама, а марозіва карыснейшае за сасіскі?
— Сынок, нават пакурыць карысней за сасіскі...

***

Лідар дзяржавы звольніў кіраўніцтва канцэрна «Беллегпрам». Страшна за Дзеда Мароза, там жа наперадзе прэзідэнцкая ёлка.

***

Жонка чэмпіёна свету па перацягванні каната пастаянна спіць без коўдры і мерзне...

***

Тэлефануе свякроў нявестцы:
– Ну, як там мой сыночак?
– Ды як, як ... Гарэлку п'е, па бабах цягаецца, мяне б'е ...
– Добра, толькі б не хварэў! ..

***

Чаму часопісы і газеты, якія ўпарта паведамляюць, што канец свету ўсё ж такі адбудзецца, не адмянілі падпіску на наступны год?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гарошкава. Горацкі павет.** Селянін П. ні з таго, ні з сяго памёр. Палажылі ў дамавіну, адпялі і аднеслі на магільнік у глыбокаю яму. Усе разышліся, асталіся ўдвох закапываць яго. Замітусілі лапаты і зямля грозна загурчэла па труне. Але труна заварушылася, быццам бы быў у ёй хто жывы. Адзін з капачоў затросся ад страху, а потым давай Бог у ногі ў вёску. Другі капач быў смялей: «Не, — сказаў ён. — Варушыся сабе і стукай, а цябе закапаю». Цераз гадзіну над магілай красаваўся насып з крыжам у краю. Напэўна, П. быў у летаргіі (сон такі) і ачуняўся ў труне, але было позна — цёмны чалавек закапаў жывога. Ці гэта казка?

**«НН». №49—50. 1912.**

**Беларуская спявачка Ліка Ялінская** сёлета выйшла замуж за грэка-прадпрымальніка Агурбаша і пераехала да свайго чалавека ў Маскоўскую вобласць. У снежні Ялінская перамагла на конкурсе «Місіс Расея-2002». Частка ўзнагароды экстравагантная — Ліка выправіцца ў пяцідзённае падарожжа... на Паўночны полюс, каб паставіць там сцяг з выявамі ўсіх удзельніц фіналу.

**«НН». №47. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8110. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 18.12.2012.
Замова №5508.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614